Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4760) 14 сакавіка 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў апарату дапрацаваць праект указа аб зацвярджэнні новай рэдакцыі правілаў прыёму ў ВНУ і ССНУ. Пры гэтым Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ніякіх кардынальных змен у арганізацыі прыёму не будзе, а новая рэдакцыя правілаў толькі паспрыяе іх удасканаленню.

✔ У сувязі са смерцю народнага артыста РСФСР Анатоля Кузняцова Прэзідэнт Беларусі накіраваў спачуванне яго родным і блізкім. «Мы ведалі і паважалі Анатоля Барысавіча як цудоўнага акцёра, чыя дзейнасць спрыяла сцвярджэнню ў мастацтве высокіх гуманістычных і маральных ідэалаў і ўмацоўвала дружбу паміж нашымі братнімі народамі», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Больш як 150 вучоных і выдучых юрыстаў з Беларусі, Расіі, Арменіі і Латвіі бралі ўдзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Канстытуцыя — Асноўны Закон беларускай дзяржавы і грамадства», якая адбылася ў Белдзяржуніверсітэце і была прысвечана 20-годдзю прыняцця Канстытуцыі нашай краіны. Падчас пленарных пасяджэнняў і «круглых сталоў» былі абмеркаваны вынікі канстытуцыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь за 20 гадоў, прааналізаваны сучасныя праблемы дзяржаўнага заканадаўства, разгледжаны шляхі аптымізацыі прававога рэгулявання ў мэтах умацавання канстытуцыйных асноў Беларусі і краін СНД.

✔ Пачаўся прыём заявак для ўдзелу ў рэспубліканскім дзіцячым конкурсе «Песня для Еўрабачання» — нацыянальным адборачным туры міжнароднага дзіцячага конкурсу. Заявіць пра сябе могуць юныя выканаўцы, грамадзяне Беларусі або іншаземцы і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі краіны не менш як два з паловай гады. На дзень правядзення міжнароднага форуму артыстам павінна быць не менш як 10 і не больш як 15 гадоў.

✔ У Беларусі вызначылі жанчын, біяграфіі якіх найчасцей шукаюць у інтэрнэце. Паводле кампаніі «Яндэкс», у пачатку сакавіка карыстальнікаў больш за ўсё цікавіла гісторыя жыцця трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі Дар'і Домрачавай. Папулярныя таксама біяграфіі князёўны Рагнеды і асветніцы Еўфрасінні Полацкай, паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.

✔ Сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі праходзіць урачыстая прэзентацыя паштовай маркі і канверта Першага дня «Слуцкія паясы», выпушчаных у зварот Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Беларусі, а таксама памятных манет серыі «Слуцкія паясы» Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел прадстаўнікі роду Радзівілаў. Музычным аздабленнем імпрэзы стала выступленне фальклорнага ансамбля «Тутэйшая шляхта».

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**



# Тарасова слова




Калаж Віктара Калініна

*...Ён выйшаў з глыбінь сялянства і стаў звяном, якое злучае на Украіне народ і інтэлігенцыю так, як сам злучаў народныя і інтэлігенцкія рысы. Вось чаму не знікае любоў да Шаўчэнкі, бо многім і многім людзям ён упершыню даў адчуць з незабыўнай і непазбыўнай сілай, што яны для Украіны родныя дзеці, а не падкідышы.*

**Максім Багдановіч**

Чытайце на стар. 6 — 8

# Рэтра-прыгажосць

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае на вернісаж персанальнай выстаўкі мастачкі Марыны Эльяшэвіч «Чароўнасць».**

Маладая мастачка прапануе гледачу галерэю чароўных жаночых вобразаў канца XIX — пачатку XXI ст. Нашы сучасніцы паўстаюць носьбіткамі традыцыйнай духоўнай прыгажосці, што робіць іх шмат у чым падобнымі да паненак пачатку мінулага стагоддзя, калі панаваў вытанчаны стыль мадэрн.

Марына Эльяшэвіч выкарыстоўвае арыгінальныя для айчыннага мастацтва сродкі мастацкай выразнасці — партрэты выкананы тушшу і мінеральнымі фарбамі на рысавай паперы ў тэхніцы традыцыйнага кітайскага жывапісу сайбоку-га. Такі малюнак патрабуе ад мастака выключнага майстэрства, дазваляе перадаць у абліччах трапяткі свет жаночай душы, святло прыгажосці і чысціні гераінь. Кожная работа творцы захапляе смеласцю задачы: у мастацкіх вобразах выявіць повязь часоў і культур, раскрыць духоўную ролю жанчыны ў сучасным свеце.

Сярод іншых карцін вылучаецца вобраз культавай асобы мінулага стагоддзя — Уладзіславы Луцэвіч, вернай спадарожніцы жыцця Янкі Купалы. Партрэт напісаны спецыяльна для выстаўкі і прэзентуецца ўпершыню як даніна памяці і пашаны стваральніцы, першаму дырэктару музея Песняра, які сёлета адзначае 70-гадовы юбілей.

Супрацоўнікі адзначаюць, што гэтая выстаўка невыпадкова з'явілася менавіта ў іх музеі: Янка Купала быў вялікі знаўца жаночай прыгажосці. У лірыцы і п'есах ён стварыў шмат запамінальных жаночых вобразаў.

**Таццяна ШЫМУК**

# «Праглядзіце гэты томік…»

**У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча працуе мастацка-дакументальная выстаўка, прысвечаная 100-годдзю выхаду паэтычнага зборніка «Вянок».**

Кніга выйшла напрыканцы 1913 года ў Вільні, у друкарні Марціна Кухты. У той час Максім Багдановіч жыў у Яраслаўлі. Ён атрымаў аўтарскія экзэмпляры кнігі на пачатку 1914 года. Радасны і ўзнёслы, імкнуўся падзяліцца шчасцем з роднымі і сябрамі. Паэт падарыў кнігі з цёплымі надпісамі сваім цёткам Марыі і Магдаліне Ягораўне, стрыечнай сястры Ганне. Старанна захаваныя сваякамі і нашчадкамі паэта, гэтыя каштоўныя экзэмпляры цяпер займаюць ганаровае месца на выстаўцы.

Экспануюцца і пазнейшыя перавыданні «Вянка», пераклады кнігі на замежныя мовы. Упершыню прадстаўлены мастацкія работы Юрыя Хілько — ілюстрацыі да вершаў «Слуцкія ткачыхі» і «Зорка Венера».

На выстаўцы можна пабачыць матэрыялы з фондаў музея, якія адлюстроўваюць складаную і цікавую гісторыю стварэння «Вянка»: фотаздымкі, рукапісы, дакументы… Важнае месца ў гэтай гісторыі мае Антон Луцкевіч, літаратуразнаўца, публіцыст, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння. Зборніка наогул магло б не быць без гэтага чалавека! Антон Іванавіч быў сябрам, у якога паэт заўседы знаходзіў падтрымку і разуменне. Антон Луцкевіч і Максім Багдановіч былі аднадумцамі, але часам знаходзілі і тэму, каб падыскутаваць. Антона Луцкевіч стаў аўтарам першай рэцэнзіі на «Вянок»: артыкул «Пясняр чыстае красы» выйшаў сто гадоў таму ў «Нашай Ніве». Антон Іванавіч адзначыў непаўторнасць і адметнасць аўтара, адкрыў чытачам свет «чыстае красы», свет паэзіі Максіма Багдановіча.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

## Фоташтрых

Фота Святланы Паўлавіцкай



*Да юбілею Тараса Шаўчэнкі ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Вялікі Кабзар Украіны». У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы XIX — XX стагоддзяў, сярод якіх — выданні твораў пісьменніка, пераклады яго паэзіі на іншыя мовы, а таксама працы даследчыкаў, прысвечаныя жыццю і літаратурнай спадчыне выдатнага дзеяча.*

# Скідзель. Гісторыя

Фота Віталя Катовіча



*Аўтар кнігі Сяргей Токць (справа) і выдавец Зміцер Санько.*

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі «Скідзель і яго ваколіцы. Жывая гісторыя» Сяргея Токця і Мікалая Дзелянкоўскага. Выданне стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці краіны.**

Да імпрэзы супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі падрыхтавалі выстаўку «Скідзель: ад мінулага да сучаснага». Дакументы з сярэдзіны XIX ст. да нашага часу, манаграфіі, перыядычныя выданні, мемуарная літаратура, матэрыялы з фондаў беларускіх архіваў і іншыя сведчанні даўніны — усё гэта можна было пабачыць на ўласныя вочы.

Прэзентацыя распачалася выступленнем галоўнага рэдактара выдавецтва «Тэхналогія» Зміцера Санько, які адзначыў: «Чытач краязнаўчай літаратуры цяпер не той, што быў раней. Яго ўжо не задавальняюць павярхоўныя апісанні, «аздобленыя» высмактанымі з пальца легендамі, накшталт таго, што «пад гэтым 500-гадовым дубам адпачываў Іван Грозны». Сучаснага чытача цікавяць факты. Ён хоча таксама бачыць у гісторыі, хай сабе і лакальнай, сваіх дзядоў і прадзедаў. Выдатная кніга С. Токця і М. Дзелянкоўскага дае ў гэтым сэнсе вельмі багаты матэрыял. У ёй фігуруе больш як 600 прозвішчаў мясцовых жыхароў! Шмат каго, я ўпэўнены, яна падштурхне да складання свайго радаводу. Акрамя таго, аўтары кнігі паказваюць бліскучы прыклад сваім калегам — гісторыкам і краязнаўцам, у якім кірунку трэба працаваць і якога плёну можна дасягнуць».

Сяргей Токць, адзін з аўтараў кнігі, распавёў, як узнікла ідэя выдання, як рэалізоўваўся праект, азнаёміў прысутных з яго структурай і зместам. Адзначыў вялікае значэнне ў паспяховай працы не толькі дзяржаўных кнігазбораў, архіваў, але і дзённікаў, успамінаў скідзян, а таксама сямейных фотаархіваў. Падзякаваў усім, хто дапамагаў у гэтай справе.

Дзве важныя акалічнасці адзначыў у сваёй прамове Аляксей Шаланда, кандыдат гістарычных навук: «Па-першае, гэтая кніга — выдатны прыклад супольнай працы гісторыкаў і краязнаўцаў. Па-другое, яна сведчыць, што гарадзенскія гісторыкі вельмі плённа працуюць. Радасна, што матэрыялы, якія яшчэ гадамі ляжалі б у архівах, не толькі ўвайшлі ў навуковы ўжытак, а і сталі даступныя шырокаму колу зацікаўленых чытачоў».

Андрэй Кіштымаў, дацэнт Інстытута прадпрымальніцтва і парламентарызму, акрэсліў: «У асобе Сяргея Токця мы маем аднаго з пачынальнікаў даследаванняў у галіне лакальнай гісторыі. Гэты кірунак надзвычай перспектыўны. Скідзелю пашэнціла, што ў яго ёсць свае Герадоты».

У аўтараў ёсць задума напісаць працяг гэтай кнігі — пра Скідзель ад 1939 года да нашых дзён.

**Наста КАПТУРЭЎСКАЯ**

# Кіруемся ў Гомель!

Прадстаўнікі літаратурна-мастацкіх выданняў, што ўваходзяць у структуру Выдавецкага дома «Звязда», наведалі Гомель. Падчас абласнога семінара для бібліятэкараў, які праходзіў у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. Леніна, кіраўнікі часопісаў «Маладосць», «Вожык», «Родная прырода», рэдактар аддзела газеты «Літаратура і мастацтва» і ўласны карэспандэнт газеты «Звязда» распавялі пра адметныя праекты сваіх выданняў, а таксама падзяліліся планамі на будучыню. Так, падкрэслівалася, што часопіс «Полымя» ў хуткім часе зменіць фармат, стане пляцоўкай (нават міжнароднай!) для абмеркавання актуальных пытанняў развіцця літаратуры, рэдакцыя «Нёмана» плануе публікаваць больш перакладаў твораў сучасных замежных аўтараў, а «Маладосць» мае задумку стварыць адмысловы «гомельскі» выпуск. Часопіс «Вожык» па-ранейшаму будзе весяліць чытача гісторыямі, вершамі, малюнкамі, а «ЛіМ» — знаёміць з новымі выданнямі, распавядаць пра актуальныя падзеі ў культурным жыцці краіны.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Дыялог сяброў

Па ініцыятыве міжнароднай грамадскай арганізацыі «Дыялог Еўразія» і Мінскага гарадскога аддзялення СПБ у Мінску пачала працаваць яшчэ адна «Літаратурная гасцёўня». Мяркуецца, што яе ўдзельнікамі будуць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Беларусі, Турцыі ды іншых краін. Ва ўступным слове Сезэр Чакмак, дырэктар згаданай грамадскай арганізацыі, распавёў пра сваю дзейнасць і перспектывы праекта.

На першае мерапрыемства, якое прайшло ў офісе арганізацыі, былі запрошаны літаратары — удзельнікі паездкі ў Стамбул, аўтары кнігі «Рукопожатие над Босфором». Адна з мэт правядзення падобных сустрэч — абмеркаванне творчых праблем. Ганаровым госцем першага пасяджэння стаў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, мовазнаўца Міхась Пазнякоў. На працягу вечара творца адказваў на пытанні, чытаў вершы. Распавёў і пра тое, як яму пашчасціла працаваць з Кандратам Крапівой.

У выкананні Аляксандра Якіменкі на словы М. Пазнякова прагучала некалькі песень. Быў прадэманстраваны фільм пра творцу. Паэты Анатоль Аўруцін і Лізавета Палеес прачыталі пераклады вершаў Міхася Паўлавіча на рускую мову. Выкладчык і крытык Уладзімір Навумовіч высока ацаніў кніжную серыю «Мінскія маладыя галасы».

У выкананні народнага ансамбля музыкі і песні «Мінскі гармонік» пад кіраўніцтвам Івана Раманчука прагучалі песні народныя і на словы беларускіх паэтаў, у тым ліку М. Пазнякова.

**Іна ФРАЛОВА**

# Урок лірыкі

Не зусім звычайны ўрок роднай літаратуры, дакладней, сучаснай беларускай паэзіі, прайшоў напярэдадні Міжнароднага жаночага дня ў сталічнай гімназіі № 25 імя Рымы Шаршнёвай.

Разам з настаўніцай гэтай навучальнай установы, паэтэсай Вольгай Шпакевіч яго праводзіла маладая творца, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Яна Явіч. Дарэчы, тут ужо адбываліся сустрэчы з айчыннымі літаратарамі — Міхасём Пазняковым, Уладзімірам Мазго, Анатолем Кудласевічам.

Маладая пісьменніца не толькі чытала свае творы, але і прадставіла падлеткам газету «Літаратура і мастацтва», у якой працуе.

Урок атрымаўся інтэрактыўным: пытанні гучалі самыя розныя — пра крыніцы натхнення, пра асабістае стаўленне да музыкі і паэзіі ўвогуле, пра любімыя вершы беларускіх класікаў, пра час сутак, які найбольш спрыяе напісанню новых твораў… Дарэчы, крэда аўтаркі — не спыняцца перад цяжкасцямі, што ўзнікаюць на шляху да мэты. Таго ж Я. Явіч пажадала і сваім слухачам.

**Арына КРАЙКО**

# Яе несмяротная думка

У сталічнай бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога адбыўся вечар памяці беларускай паэтэсы і перакладчыцы Валянціны Аколавай «Сагрэй, любоў, людское ў чалавечым».

Успомніць творцу цёплым словам прыйшлі яе сябры і калегі па пяры. Узгадалі моманты яе жыцця і творчасці. Нарадзілася Валянціна Валянцінаўна ў вёсцы Мазуршчына Салігорскага раёна. Скончыла Полацкае педагагічнае вучылішча імя Ф. Скарыны і філалагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай, метадыстам, карэспандэнтам… Паэзія заўжды спадарожнічала ёй у жыцці.

Валянціна Аколава — аўтар зборнікаў паэзіі «Сцяжына», «За тым лугам зялёненькім», «Вяртанне ў заўтра», «Я люблю сваю Беларусь», «Случарыны», а таксама паэмы-п'есы «Палачанка Ігрэна, альбо Вяртанне Скарыны». Паэтэса і перакладала з рускай, украінскай, славацкай моў, па-беларуску быў пераствораны ёй зборнік вершаў Марыны Цвятаевай.

Паэзія Валянціны Аколавай непарыўна звязана з фальклорнымі матывамі і вобразамі, народна-песенннай стылістыкай. У вершах паэтэса вярталася да самага дарагога, блізкага — Радзімы, мілай сэрцу Случчыны. Многія яе творы пакладзены на музыку.

Валянціна Валянцінаўна пакінула гэты свет 24 снежня 2013 года. Яе жыццё абарвалася заўчасна, нечакана. Але фізічная смерць не азначае смерці творчай. Паэзія неўмiручая...

Валянціна Аколава была чалавекам вясёлым, светлым. Паэзія была для яе сродкам самавыражэння. Яе лірыка, шчырая і задушэўная, дазваляла выказаць свае думкі і памкненні, пачуцці і трывогі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Бывайце, дарагая Зінаіда Якаўлеўна!



8 сакавіка 2014 г. на 81-м годзе пайшла з жыцця вядучы беларускі этнамузыколаг, вядомы славіст і беларусіст, доктар мастацтвазнаўства Зінаіда Якаўлеўна Мажэйка, імя якой стала знакавым для беларускай навукі і культуры.

У галіне фундаментальнай навукі, з'яўляючыся прадстаўніком сістэмнатыпалагічнай інтанацыйнай школы свайго настаўніка Я. У. Гіпіуса і развіваючы яго ідэі, З. Мажэйка пакінула навуковыя працы, якія ўвайшлі ў «залаты фонд» славянскай музычнай фалькларыстыкі і ў многім вызначылі той высокі ўзровень этнамузыкалогіі, якога гэта навука дасягнула ў другой палове XX — пачатку XXI стагоддзя.

У галіне практычнай фалькларыстыкі Зінаіда Якаўлеўна першай у Беларусі стала сцвярджаць ідэю пра неабходнасць папулярызацыі музычнага фальклору на навуковай аснове і канцэпцыю самадастатковасці музычнай культуры вуснага тыпу. Ёю была распрацавана праграма па аўдыёвізуальнай антрапалогіі, па ўласных сцэнарыях знята сем дакументальных музычна-этнаграфічных кінастужак. Як навуковец з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй З. Я. Мажэйка востра ставіла праблему неабходнасці экалагічнай абароны вясковай народна-песеннай культуры.

Заслугі Зінаіды Мажэйка адзначаны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі (1987), Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1994), Прэміяй імя Б. Асаф'ева (1991).

Светлая памяць пра Зінаіду Якаўлеўну назаўсёды захаваецца ў сэрцах яе паплечнікаў і аднадумцаў, тых, каму пашчасціла працаваць разам з гэтай яскравай, неардынарнай асобай на карысць беларускай навукі і культуры.

**Адміністрацыя і супрацоўнікі ДНУ «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», калегі, сябры**

*Прэзентацыя*

# Шубуршун пакрыўдзіўся

Думаецца, пра незвычайную маленькую істоту — Шубуршуна — чытачы «ЛіМа» ўжо чулі. Ён жыве ў дзённіку дзяўчынкі Веранікі, любіць вучыцца, падарожнічаць і вельмі добра малюе. Але яго злуе, калі сяброўка не надта імкнецца добра вучыцца і атрымлівае кепскія адзнакі ў школе. І вось аднойчы, калі Вераніка чарговы раз дрэнна падрыхтавалася да ўрокаў, Шубуршун моцна пакрыўдзіўся і сышоў з дома.

Пра яго новыя прыгоды распавядае кніга Алеся Карлюкевіча «Як Шубуршун па Свіслачы падарожнічаў», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі». Прэзентацыя выдання прайшла ў сталічным «Кніжным салоне». Падчас імпрэзы вядучы навуковы рэдактар рэдакцыі літаратуры, мастацтва і культуралогіі «БелЭн імя П. Броўкі» Сяргей Молчан распавёў:

— У гэтым выданні — цэлае сузор'е: герой, аўтар, мастак. Аксана Аракчэева, якая працавала над афармленнем кнігі, не проста ажывіла яе з дапамогай малюнкаў, а распрацавала праект, напоўнены любоўю і выдатным зместам. А перад мастаком тут стаяла досыць складаная задача — патрэбна было намаляваць Шубуршуна, якога ніхто ніколі не бачыў і не ведае дакладна, як ён выглядае, спалучыць яго вобраз з мноствам




дэталей, вобразаў, што павінны прыцягнуць увагу. Думаецца, Аксана Барысаўна выдатна справілася. І цяпер, калі я бяру гэтую кнігу ў рукі, мне ўяўляецца ідэальная ва ўсіх адносінах карціна: тата, мама, дачка, сын сядзяць вечарам, чытаюць разам кнігу, абмяркоўваюць. Менавіта абмяркоўваюць, бо Алесь Карлюкевіч не толькі добры апавядальнік, але і вядомы даследчык-краязнаўца, энцыкласпедыст. Гэты аўтар піша багатую на факты, пазнавальную прозу, якая дае дзецям магчымасць развіваць фантазію і больш даведвацца пра родны край.

Адметнасці працэсу падрыхтоўкі ілюстрацый да дзіцячых выданняў раскрыла мастачка Аксана Аракчэева:

— Калі працую над кнігай, то амаль жыву, патанаю ў ёй. Спачатку чытаю першы раз, раблю эскізы, потым перачытваю зноў і зноў. Працую ў кожную вольную хвіліну, нават у самалёце.

Дарэчы, прыгоды Шубуршуна яшчэ не скончыліся. Ужо ідзе праца над падрыхтоўкай працягу гісторыі, і па афармленні гэтае выданне будзе адрозніваецца ад першай і другой кніг. Аксана Барысаўна падкрэсліла: «Хочацца, каб усе кнігі былі адметныя».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**17 сакавіка** — у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» на творчую сустрэчу з паэтам Уладзімірам Мацвеенкам. Мерапрыемства пройдзе ў мастацкім каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4). Пачатак а 14-й гадзіне.

**18 сакавіка** — на літаратурна-музычнае свята «У храме кахання зямнога», якое пройдзе ў бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.

**19 сакавіка** — у літаратурны клуб «Шчырасць» пры бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчую сустрэчу з паэтам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Уладзімірам Карызнам. Пачатак а 16-й гадзіне.

# Апладысменты земляку

У Астравецкім раённым доме культуры адбыўся творчы вечар кампазітара, аранжыроўшчыка і спевака Аляксандра Якіменкі. Апошнім часам ён актыўна супрацоўнічае з паэтам Міхасём Пазняковым (разам імі створана каля 50 песень), народным артыстам СССР Ігарам Лучанком ды іншымі.

Публіка шчыра вітала свайго земляка. Падчас вечарыны прагучалі песні на словы Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Міхася Пазнякова, Міхася Башлакова… Іх выконвалі апрача юбіляра яго вучні: Лілія Мішакова, Наталля Вянгроўская, Анастасія Кузьміцкая, а таксама мясцовыя народныя ансамблі «Скарбніца», «Карусель», народны хор ветэранаў Астравецкага РДК і хор «Польскае рэха Астраўца».

Юбіляра сардэчна павіншавалі не толькі астраўчане, але і госці: старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, паэт-песеннік Іван Цітавец, кампазітар і музыкант Міхаіл Слізкі, мастак і паэт з Ліды Рычард Груша, дырэктар Лідскага тэлерадыёаб'яднання і член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Ніна Пазнякова.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Беларускі саюз музычных дзеячаў глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, доктара мастацтвазнаўства, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, члена Праўлення БСМД Зінаіды Якаўлеўны МАЖЭЙКА і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# Натхненне з Нёмана

Нагодай сабрацца ў чытальнай зале Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі стала прэзентацыя зборніка паэзіі «Надвячоркам» Мікалая Староверава, якога большасць чытачоў «ЛіМа» ведае па псеўданіме Мікола Нёманскі.

Пасля школы Мікалай служыў у арміі, шэсць гадоў аддаў афіцэрскай службе. Але праблемы са здароўем прымусілі звольніцца. Амаль 15 гадоў М. Стараверaў працаваў дарожным майстрам. Жыццёвыя сілы знайшоў у вершаваных радках, у якіх апеты магільнянскія краявіды, родная старонка.

Пачынаючы з 1994 года, Мікола Нёманскі друкуецца з вершамі на старонках газет «Чырвоная зорка», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», у зборніках «Край мой там, дзе Нёман льецца», «Звіні, наднёманская ліра». Сваю літаратурную дзейнасць Мікалай Савельевіч пачынаў у літаб'яднанні «Нёманец», браў удзел у раённых літаратурных конкурсах «Году роднай зямлі», «Да 65-годдзя вызвалення Беларусі», «Жыве між нас крапіўнiскае слова».

Летась у студзені ў Нёманскай школе прайшла прэзентацыя яго першага зборніка вершаў «Прадчуванне». А выхад новай кнігі сведчыць пра тое, што яго вершы запатрабаваны сярод чытачоў. У аўтара атрымліваюцца і лірычныя, і сатырычныя вершы. Паэт паведаміў, што ўжо адабраны матэрыялы для рускамоўнага зборніка вершаў філасофскай тэматыкі, дапісваецца паэма пра Нёман.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ**



Мікола МАЛЯЎКА

## За навальнічным парогам

*За навальнічным парогам*
*Сонца ўзышло, асвяціўшы разлогі.*
*Ты мне дарогу якраз перайшла*
*З поўным вядром*
*Не вады,*
*А святла.*
*Юны,*
*Спытаць не адважыўся я,*
*Замужам ты ці яшчэ нічыя.*
*І панесла камусьці святло,*
*А для мяне —*
*Быццам сонца зайшло.*
*У дарозе, за крутым паваротам,*
*Сустракаў прыгажуняў і потым,*
*У свае маладыя гады, —*
*З поўным вядром*
*Не святла,*
*А вады.*
*Да вытокаў вяртала любоў,*
*Ды цябе на зямлі*
*Не знайшоў,*
*Сілы і час аддаўшы дарогам*
*За навальнічным парогам.*

## Вясельны вальс

*Музыка наплывае,*
*Мкне за вясельны парог —*
*Пачынаецца з вальса*
*Сэрцаў двух дыялог.*

*Расступіліся госці,*
*Як жывая сцяна,*
*Кружацца так, у мілосці,*
*Толькі Ён і Яна.*

*Асвячаюць іх шчодра,*
*Як прызнанне ў любві,*
*І румянец на шчоках,*
*І агонь у крыві.*

*Музыка дзіўная льецца*
*І кранае да слёз —*
*Не зямная, здаецца,*
*А сплывае з нябёс.*

*На вяселлі, мажліва,*
*Так спрыяе і Бог,*
*Каб завяршыўся шчасліва*
*Сэрцаў двух дыялог.*

## Падушка

*Вяселле нас парадніла,*
*Не мела абноў дарагіх,*
*І мама нам падарыла*
*Падушку — адну на двaіх.*

*Здавалася, воблачка светлае*
*У свет чароўны плыве,*
*А мы на воблачку гэтым*
*Ляжым, галава к галаве.*

*Падушка сама не спала,*
*А нас, шчаслівых, і ў сне*
*Пяшчотным дыханнем збліжала —*
*Ад зорак да сонца ў акне.*

*Цяпер на вяселлях дораць,*
*Каб маладым памагчы,*
*І еўра, бывае, і долары,*
*І ад кватэры ключы.*

*Пад небам, блакітным і шэрым,*
*Як быццам няблага жывём:*
*І грошы ёсць, і кватэра,*
*І госці шумяць за сталом.*

*Вось толькі ніякая сіла*
*Не верне гадоў маладых,*
*І мамы няма, і знасілася*
*Падушка — адна на двaіх.*

## ***

*Твой вобраз пяшчотны,*
*Далёкі і блізкі,*
*Я ў думках і марах*
*Галубіў калісьці.*
*Глядзеў у люстэрка,*
*А бачыў —*
*Цябе,*
*Вясёлую*
*І ціхую,*
*У журбе.*

*Нас парадніла*
*Пад знакам кахання*
*Прарочая сіла*
*Твайго прызнання:*
*«Гляджу ў люстэрка,*
*А бачу —*
*Цябе,*
*Вясёлага*
*І ціхага,*
*У журбе».*



Алёна ПАПКО

## Тою вясной

*Альтанку аплятае*
*дзікі хмель…*
*Яшчэ да першых лапінак травы*
*Бунтуе з асалодай*
*зграбны чмель:*
*З марозных схованў вылез ледзь жывы!*

*Даруй мне,*
*як чмялю,*
*маё жыццё,*
*Будзённае у пошуках сябе!*
*Прытупіць час кахання вастрыё —*
*Ад памяці збягу,*
*як ад цябе.*

*Але не наталюся той вясной:*
*Так водар хмелю*
*кружыць галаву!*
*Была табе я абяцана ёй…*
*І гэтаю вясною*
*я жыву.*

## ***

*Усё-ткі мой…*
*Падзякую жыццю*
*І восені,*
*дажджом афарбаванай.*
*Чужому не малюся больш агню,*
*Бо ведаю,*
*што буду я каханай.*

*І погляд твой зычлівасцю кране,*
*І па руцэ прачытаны сакрэты.*
*Як рэчаісна падалося мне:*
*Клімт напісаў пра нас свае партрэты!*

*Як запавет,*
*сустрэца на зямлі…*
*Патоне ў хрызантэмах надвячорак,*
*Дзе нашы лёсы сцежкай праляглі*
*Да вечнасці,*
*здаецца...*
*Ці да зорак?*

## Мой сад

**А.****

*Драбнюткі дождж…*
*Прамок ужо мой сад.*
*Чаромхі ў ім няма,*
*Была, ды год назад.*
*Цюльпаны адцвілі —*
*Жыццё ідзе на лад.*
*«Ён быў учора тут», —*
*Прашэпча далягляд.*

*Дождж капае, імжыць,*
*А хочацца цяпла.*
*Півоняў квет гарыць*
*На самай строме дня.*
*Маліны куст здалёк*
*Кранаецца зямлі.*
*«Учора быў ён тут», —*
*Шапчу я цішыні.*

*У мой глядзеў ён сад,*
*Глядзела я ў акно…*
*І не было дажджоў,*
*Што зараз б'юць у шкло.*
*Задумліва стаяў —*
*Ды так і не зайшоў.*
*Чаму? Скажы мне,сад.*
*Чаму? Шапні мне, дождж.*

## На іншай зямлі

*Не сустрэну,*
*я ведаю сэрцам.*
*Ні на той,*
*ні на гэтай зямлі,*
*Белы цвет упадзе на акенца,*
*Каб шчаслівымі людзі былі.*

*Не сустрэну цябе,*
*не сустрэну,*
*Хоць і буду адчайна прасіць:*
*Забяры маю грэшную рэўнасць,*
*Каб пасля на двaіх падзяліць.*



Фота Кастуся Дробава



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Родная мова

*З родным краем рад сустрэчы,*
*Наглядзецца не магу,*
*Як лугі дзяцінства рэчку*
*Берагамі берагуць.*

*І звініць, як гэта рэчка,*
*Мова матчына, журчыць.*
*Так і нам — удзячна вечна*
*Мову продкаў берагчы.*

*Гэты скарб вялікі самы, —*
*Не бывае даражэй.*
*Бо заўжды і нас таксама*
*Наша мова беражэ…*

## Ля вечнага агню

**1**

*Б'ецца, як сэрца, трапеча агонь.*
*Вецер цалуе, хвалюе яго.*
*Гэты вятрыска — дыханне палёў,*
*Што далятае з далёкіх гадоў.*

*Многае бачыцца ў Вечным агні.*
*Праведны гнеў і ласкавасць у ім.*
*Быццам Купальскае вогнішча ён, —*
*Мы ачышчаемся з гэтым агнём…*

*Нас азарае высокі агонь,*
*Нас блаславіяе свяшчэнны агонь.*
*Як абярэг ад ліхога ўсяго,*
*Мы панясём з сабой водбліск яго.*

**2**

*Ля Вечнага агню*
*Шануем, як радню,*
*Сярод сяброў сваіх*
*Зноў памінаем іх,*
*Што з бітвы не прыйшлі, —*
*І там, дзе паляглі*
*Квітнее з-пад жарствы*
*Бутон агню жывы.*

## Лічбы на сэрцы

**Памяці Міхася Савіцкага**

*Хіба ж быць можа куточак глухім,*
*Дзе шумны гай, гаварліўка крыніца?!*
*Толькі ў прыгожых мясцінах такіх*
*Мог ён, вялікі мастак, нарадзіцца.*

*Яркія краскі цвілі для яго*
*Ў лузе за роднаю вёскай Звянячы.*
*І ад здзіўлення аж дух заняло,*
*Як першы раз тут вясёлку убачыў.*

*Вырасці тут ён нячулым не мог —*
*І не натхніцца на радасць і мукі*
*Творчасці, як і кахання, — сам Бог*
*Пэндзаль і фарбы падаў яму ў рукі.*

*І на здзяйсненні быў лёс не скупы, —*
*Ўпартая праца была яму святам.*
*Майскім дажджом, ад любові сляпым,*
*Выпала светлых імгненняў багата.*

*І давялося праз пекла прайсці,*
*У Бухенвальдзе з тугою сустрэцца.*
*Нумара, што там на робе насіў,*
*Лічбы ляглі на збалелае сэрца.*

*Змыць тыя лічбы гады не змаглі*
*Аж да канца яго шляху зямнога…*

*Гэтыя лічбы —*
*на сэрцы Зямлі,*
*Гэтыя лічбы —*
*на сэрцы у Бога.*

## Дзвіна

*Знаёмая сцяжынка рада ўбачыць, —*
*Віхляючы ўбакі, мяне вядзе, —*
*Дзе некалі заўзята я рыбачыў —*
*Вудзільнам пасвіў воблакі ў вадзе.*

*Мяне пазнаўшы, ўсплёснула рукамі,*
*Як маці, ціха ўсхліпнула яна,*
*Рака майго дзяцінства сустракае,*
*Зноў туліць да грудзей мяне Дзвіна!*

*А як было тут хораша з каханай*
*Схмялелым без віна аж да відна!*
*Спявала, як малым, нам калыханку*
*Рака, што ёсць у кожнага адна.*

*Мяне пазнаўшы, ўсплёснула рукамі,*
*Як маці, ціха ўсхліпнула яна,*
*Рака майго юнацтва сустракае,*
*Зноў горне да грудзей мяне Дзвіна!*

*Здаецца, што, як некалі, плытамі*
*Сплываюць па рацэ мае гады.*
*Ды сцежачка знаёмая вяртае*
*Ў дзяцінства і ў юнацтва зноў сюды.*

*Мяне пазнаўшы, ўсплёснула рукамі,*
*Як маці, ціха ўсхліпнула яна.*
*Дай божа, каб так гожа сустракала*
*І ў старасці калісь мяне Дзвіна…*



# Міхаіл НІКІЦІН

# Партрэт бацькі

## *Апавяданне*

**1**

Ехаць трэба было ледзь не на другі канец горада. Старэнькі тралейбус цягнуўся туды амаль гадзіну з цяжкімі ўздыхамі, стукамі, стогнамі і завываннямі, робячы доўгія аб'езды, бо Ленінскі праспект быў перакапаны катлаванамі метрабуду. Было гэта ў досыць далёкі для сённяшніх маладых час, на самым пачатку васьмідзясятых: людзі больш сталыя памятаюць адметнасць той пары…

Генадзь Мікітавіч Міхайлаў, старшы аператар Геафізічнай экспедыцыі, жыў з сям'ёй у трохпакаёвай кватэры ў прыгараднай Сцяпянцы, але з'яўляўся там не надта часта. Большую частку свайго рабочага часу ён праводзіў у камандзіроўках на палявых пошуках — шукалі нафту — у балоцістых мясцінах Палесся. Дадому прыязджаў, каб «падбіць рахункі» і крыху адпачыць, выкарыстаць заробленыя «ў полі» адгулы. У адзін з такіх прыездаў наважыўся ён заняцца справай, да якой даўно клікаў яго сыноўні абавязак. А што гэта была за справа? Бацька Генадзя Мікітавіча, сельскі настаўнік Мікіта Міхайлаў, загінуў на фронце ў жніўні 1943 года. Гэта пра такіх, як ён, напісаў рускі паэт-франтавік Сяргей Арлоў:

*Его зарыли в шар земной,*
*А был он лишь солдат,*
*Всего, друзья, солдат простой,*
*Без званий и наград…*

А тры гады таму, спякотным, таксама жніўеньскім днём, давялося Генадзю і тром яго братам пахаваць у роднай вёсцы і маці. Цяжкая ёй дасталася доля: у галодныя пасляваенныя гады, надрываючыся на амаль дармавой калгаснай працы, гадаваць чатырох хлопцаў — аднаго пад адным… Ды яшчэ амаль да самай смерці пакутавала, не жадаючы верыць у пагібель свайго Мікіты. Аж пакуль ёй не наважыўся расказаць (больш як праз 30 гадоў!) цудам уцалелы відавочца таго бою, жыхар суседняй вёскі, як яно там было, як сваімі рукамі паклаў земляка ў брацкую магілу… Гэтая вестка, мусіць, яе і падкасіла. Толькі крыху за семдзесят было матулі, калі насмерць ударыў інсульт. Гады праз два паставілі сыны на яе магіле сціплы помнік — стэлу з фотакарткай пад шклом і надпісам. Тады старэйшы брат Васіль, што жыў у вёсцы, сказаў:

— Глядзі, Гена, тут, на помніку, яшчэ ёсць месца. А каб нам сюды і татаву фотакартку, як мае быць, і з надпісам добрым… Хоць і не тут, не побач з маці, ляжыць наш бацька, а недзе за Смаленскам, у Ельні, але таксама ў гэтай зямлі, па якой ходзім і ў якую калісьці самі ляжам. Зямля — яна на ўсіх адна. Будзем лічыць, што тут, а не там, за светам, магіла нашага бацькі. Але трэба, каб бацька на медальёне быў, як яму належыць, у вайсковым форменным адзенні, каб усе адразу бачылі: салдат!

— Слухай, Васіль, — разгублена паглядзеў яму ў вочы Генадзь, — у нас жа няма такой карткі. Толькі даваенныя, у цывільным…

— Вось я і кажу, што трэба, каб у ваенным… Ты, Генадзь, побач з Мінскам жывеш. Там лягчэй знайсці добрага майстра, каб «апрануў» бацьку.

— Зраблю! — коратка і рашуча, адразу ўсё зразумеўшы, адказаў Генадзь старэйшаму. — Усё зраблю!

Сказаў і яшчэ раз з сумам зазірнуў у твар маці, якая, у белай хустачцы, спагадліва глядзела на яго з фотакарткі. «Мамчын партрэт таксама трэба замяніць, — падумаў ён. — Хай тады будзе, як і ў бацькі, на медальёне».

Але адна справа сказаць, паабяцаць, а іншая — знайсці магчымасць зрабіць… Нарэшце ўзяўся за святую справу, калі надарыліся чарговыя адгулы.

Найперш трэба было выбраць добры фотаздымак-аснову, з якім ужо мог бы папрацаваць фотамайстар. Бацькавых картак увогуле засталося няшмат, а такіх, што прыкладна падыходзілі па часе, — толькі дзве, 1938 і 1940 гадоў. Генадзь Мікітавіч, крыху падумаўшы, спыніўся на здымку 1938 года, бо там бацька выглядаў больш падобным да сапраўднага салдата-франтавіка: стомлены, схуднелы, з рэзкімі маршчынамі твар, сур'ёзны, дапытлівы погляд нібы проста нацэлены ў вочы таму, хто на яго глядзіць. Мусіць, сфатаграфавалі яго ў самым канцы навучальнага года, калі толькі-толькі скончыліся ў сямігодцы выпускныя экзамены. Працы, у тым ліку вельмі нервовай, у час экзаменаў было вельмі шмат, а працаваць напаўсілы бацька не мог… На гэтай фотакартцы ён быў у цёмнай кашулі-касаваротцы, вельмі падобнай да салдацкай гімнасцёркі, з непакрытай галавой, падстрыжаный, як заўсёды, «пад нуль». На думку Генадзя, вопытны майстар-фатограф, ці, лепей, фатограф-мастак, мог без асаблівых цяжкасцей «апрануць» бацьку ў «сапраўдную» вайсковую гімнасцёрку з пагонамі артылерыста, «надзець» на яго пілотку з зорачкай і «прымацаваць» да грудзей гвардзейскі значок. Заставалася толькі знайсці такога майстра. Здавалася, што ў сталічным Мінску гэта будзе няцяжка зрабіць. Але… На жаль, амаль усё нашае жыццё складаецца вось з такіх «але»… Не так яно ўсё лёгка і добра атрымлівалася, як меркавалася спачатку.

Нехта са знаёмых параіў Генадзю Мікітавічу звярнуцца на Мінскую фабрыку фотаработ: маўляў, менавіта там працуюць найлепшыя фотамайстры-мастакі, якія ніколі не адмовяцца прыняць такі заказ.

Майстар Сямёныч, да якога па парадзе галоўнага інжынера фабрыкі звярнуўся Генадзь Мікітавіч, спачатку зусім не хацеў брацца за гэтую справу: маўляў, не спраўлюся, надта складаная і адказная работа, ды і сваёй, планавай, процьма. Нарэшце просьбу ўважыў.

— Але мне патрэбны ўзор, — сказаў ён. — Я павінен ведаць, якім вы ўяўляеце і жадаеце бачыць на партрэце свайго бацьку.

— Калі ласка, іх у мяне колькі заўгодна, гэтых узораў, — адказаў Генадзь Мікітавіч, вымаючы з саквояжа кнігу ўспамінаў абаронцаў Брэсцкай крэпасці «Гераічная абарона».

— Давайце сюды, паглядзім…

Селі за стол таго майстра. Гартаючы ўклейкі з фотаздымкамі абаронцаў і вызваліцеляў Брэста, падабралі «абмундзіраванне» для гвардыі чырвонаармейца Мікіты Міхайлава: ад аднаго ўдзельніка вайны — пілотку і яе характэрную пасадку на галаве, ад іншага — гімнасцёрку з пагонамі і гэтак далей. Сямёныч акуратна рабіў папяровыя закладкі і падпісваў іх алоўкам. Нарэшце скончылі папярэднюю справу. Майстар закрыў невялічкі томік, паклаў яго перад сабой на стол і накрыў сваёй вялікай чырванаватай далонню. Уважліва паглядзеў у твар Генадзю Мікітавічу, нібыта яшчэ знаходзячыся ў роздуме.

— Добра, — сказаў ён. — Паспрабуем выканаць ваша жаданне, але калі ўбачу, што атрымліваецца «не тое», тады прабачце. Халтурыць і браць за гэта грошы — не ў маім звычаі, асабліва калі такая святая справа… Вы пакіньце мне кнігу і бацькаў фотаздымак. Па заказ зойдзеце асабіста да мяне недзе праз два тыдні. Калі дадуць своечасова плёнку, мусіць, паспею да гэтага часу. А пакуль — бывайце. Мне, прабачце, працаваць трэба…

**2**

— Гатовы ваш заказ! — узрадавана вымавіў Сямёныч, ледзь Міхайлаў пераступіў парог. — Вось, глядзіце, — ён падаў у рукі Генадзю Мікітавічу вялікі фотапартрэт, зацягнуты ў плёнку. Можна было заўважыць, што майстар сам любуецца сваёй працай і не прыхоўвае задавальнення. — Ну як? Атрымалася ў мяне? Такім вы жадалі бачыць свайго бацьку?

З партрэта на Генадзя Мікітавіча глядзеў строга і проста ў вочы знаёмы, родны і ў той жа час нібы невядомы чалавек у пілотцы крыху набакір, у гімнасцёрцы з пагонамі артылерыста і гвардзейскім знакам на грудзях. Так, крыху невядомы, як і павінна быць, бо свайго бацьку салдатам-франтавіком Генадзь ніколі не бачыў. На сына глядзеў ужо не сельскі настаўнік, а салдат!

Па дарозе дадому Генадзь Мікітавіч не спяшаючыся разглядзеў фотапартрэт. Сапраўды, атрымалася досыць праўдападобна, хоць пры пільным поглядзе можна было заўважыць, што гімнасцёрка занадта акуратная, нібы накрухмаленая, зусім не памятая, без адзінай складкі. Твар бацькі відавочна «памаладзеў», бо майстар-мастак прыбраў ім маршчыны. Затое выраз вачэй, пранізлівы погляд былі тыя ж, што на арыгінале, нават яшчэ больш выразныя. Надзетая на галаву пілотка і гімнасцёрка з пагонамі моцна змянілі аблічча Мікіты Міхайлава. Строга і патрабавальна глядзеў ён на сына са сваёй далечы, з фронту вялікай вайны, салдатам якой застаўся назаўсёды. Здавалася, яшчэ крыху — і партрэт ажыве, і стане бачна пад нагамі бацькі глінiстая смаленская зямля, а за спінай — франтавая дарога, машыны, гарматы, салдаты — таварышы бацькі, бярозавыя пералескі, хмызнякі…

І вось Генадзь Мікітавіч, сышоўшы з аўтобуса, зноў на падыходзе да роднай вёскі. Заўтра субота, адзін з тых дзён у годзе, бадай што галоўны ў іх мясцовасці, калі людзі, усе без выключэння, ідуць на могілкі, каб праведаць сваіх блізкіх і сяброў, што апярэдзілі іх на непазбежным шляху да вечнасці. Толькі што праліўся добры летні дожджык, першы ажно з красавіка. Зноў прыпякала гарачае сонейка і зямля пад нагамі паравала. А па баках палявой дарогі неяк па-сірочы схілялі свае тонкія каласкі занадта рана пажаўцелыя ў гэтым годзе ўсходы жыта.

Генадзь Мікітавіч, перад тым як паказаць братам і іншым сваякам прывезены з горада керамічны медальён-партрэт бацькі, вырашыў яшчэ раз паглядзець на яго нібыта іх вачыма. Спыніўся, дастаў з сумкі медальён, разгарнуў абгортку з мяккай тканіны. Ды не, усё добра, нават лепш, чым на папяровым партрэце. На памяншаным здымку амаль не заўважна была рэтуш. Больш рэзка і выразна выступіла аблічча бацькі — суровы, схуднелы твар, які ўжо не раз глядзеў у вочы смерці…

Увечары, калі яшчэ высокім было чырвоньскае сонца, Генадзь і яго малодшы брат Косця пайшлі на могілкі. З сабой апрача медальёнаў з новымі партрэтамі бацькі і маці ўзялі ручную дрэль, шрубы, металічныя паліраваныя пласціны з выгравіраваным на іх надпісам, а таксама той вялікі фотапартрэт, зроблены на мінскай фабрыцы Сямёнычам, каб паказаць яго цётцы Ганне, бацькавай сястры, да якой збіраліся зайсці па дарозе.

Браты яшчэ здалёк заўважылі цётку Ганну і яе мужа Хведара Пятровіча, якія стаялі на вуліцы каля ганка свайго пяцісценнага дома. Генадзю кінулася ў вочы: пастарэла бацькава сястра за тыя два-тры гады, пакуль яны не бачыліся. І раней ніколі не вызначалася паўнатой, а цяпер зусім змізарнела, запалі шчокі. Стаіць, уся сама бялявая, у белай старэчай хустачцы, крыху пагойдваецца ад слабасці і моўчкі прыязна ўсміхаецца: маўляў, не ведаю, з чым прыйшлі вы, любыя мікітавы дзеткі, а я вам усё роўна радая, як і заўсёды. Але было ў гэтай лагоднай усмешцы ўжо нешта нетутэйшае, незямное. Па ўсім было бачна, што няшмат засталося сястры чакаць «сустрэчы» з братам Мікітам… Хведар Пятровіч таксама моцна змяніўся.

— Цёця Ганна, — сказаў Генадзь, — ці пазнаеце гэтага салдата?

Косця паказаў ёй партрэт бацькі. Запалыя шчокі і амаль бясколерныя тонкія вусны цёткі Ганны задрыжэлі, вейкі затрымцелі. Доўга і расчулена, з сумнай усмешкай разглядала яна аблічча брата, які нібыта зараз прыйшоў да яе з самага пекла вайны.

— Так, Гена, дзе ж мне не пазнаць. Мікіта гэта, брат мой і бацька твой, хто ж яшчэ? — адказала старая жанчына цвёрдым голасам пасля працяглага маўчання і з замілаваннем, нібы малога, пагладзіла Генадзя па галаве.

— Не, не падобны ён тут на сябе, — буркліва прашамкаў бяззубым ротам Хведар Пятровіч. — Занадта малады.

— Як не падобны?! — разззлавалася на мужа цётка Ганна. — Глядзі: твар, вочы Мікітавы. Як жывы, глядзіць!

Хведар Пятровіч прамаўчаў, як і Генадзь з Косцем. Браты ведалі, што пры жыцці іх бацька і Хведар недалюблівалі адзін аднаго, бо вельмі розныя гэта былі натуры. Бацька — сціплы, сумленны, прамы чалавек, а дзядзька — грубаваты, славалюбівы, уладны.

**3**

Могілкі былі недалёка — метраў за пяцьсот ад вёскі, займаючы ўчастак лесаахоўнай паласы, што цягнулася ўздоўж гасцінца. Падышлі да магілы маці. Цяжка абвіснуў на кароткіх металічных слупках масіўны якарны ланцуг, якім абгарадзілі магільны насып. Стэла з партрэтам Пелагеі Фядотаўны ззяла на сонцы свежай бронзавай фарбай — яшчэ з тыдзень таму браты былі тут і навялі на магілцы парадак, падрыхтавалі помнік да мантажу новых партрэтаў. Таму цяпер Генадзю і Косцю не спатрэбілася шмат часу, каб зрабіць тую справу, дзеля якой прыйшлі. У верхняй частцы стэлы змясцілі партрэт маці. Усмешлівая і жыццярадасная глядзела яна з медальёна, нібыта сапраўды сустрэлася нарэшце са сваім Мікітам. Ніжэй прымацавалі медальён з суровым абліччам бацькі-воіна. Пад кожным прыладзілі паліраваныя пласціны са сціплымі надпісамі:

Міхайлава Пелагея Фядотаўна
1907 — 6.6.1978 г.

Міхайлаў Мікіта Міхайлавіч
1905 — 1943 гг.
Настаўнік.
Пахаваны на воінскіх могілках горада Ельні Смаленскай вобласці.

На другі дзень ярка асветленыя сонцам вясковыя могілкі былі поўныя пасвяточнаму апранутых людзей. Святкавалі яны сустрэчу з роднымі і блізкімі, якія апярэдзілі іх на шляху да вечнасці. Было крыху смутку, але больш ціхай радасці, бо не ўсе моцна сумуюць падчас сустрэчы з тымі, хто быў дарагі і любы пры жыцці. Сабралася ўшанаваць радню і дзеда з бабкай і ўся вялікая сям'я Міхайлавых. Многія знаёмыя, а ў вёсцы ўсе адзін аднаго ведаюць, падыходзілі, віталіся, бачылі абноўлены помнік на магіле Пелагеі Фядотаўны і казалі яе сынам:

— Добрую справу зрабілі вы, хлопцы. Колькі гадоў пакутавала Пелагея без любага Мікіты, хоць і не ў адзіноце жыла. А цяпер бацькі вашы нібыта зноў разам.

Яны разам і праз дзесяцігоддзі глядзяць з медальёнаў, як жывыя…

# «Сягоння на Ўкраіне вялікае свята...»

**Тараса Рыгоравіча Шаўчэнку я атаясамліваю найперш з самой Украінай — дзяржавай, культурай, гісторыяй, народам. Яго творчасць — падмурак нацыянальнай ідэнтыфікацыі, яскравы здзейснены прыклад нацыятворчай ідэі.**

Паэзія Т. Шаўчэнкі заўсёды магічна вабіць. Гэта музыка вялікага эмацыянальнага дыяпазону: ад абаяльна-мілагучных нотак верша «Садок вішнёвы каля хаты…» (зачараваныя ўтульнай настраёвасцю твора, мы часта забываем яго «дысанансную» назву — «У казематах») да арганна-рэквіемнага «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…».

Я меў магчымасць удзельнічаць у некаторых юбілейных мерапрыемствах. Не магу не згадаць VIII Міжнародны кангрэс украіністаў, які праходзіў у кастрычніку мінулага года ў Кіеве. Варта падкрэсліць стрыжнёвае адчуванне, якое спадарожнічала мне ў час працы высокага навуковага форуму і пасля яго: і акадэмік, і звычайны чалавек ва Украіне і за мяжой бачыць гэтае імя ў арэоле святасці, пакутніцтва і нябеснага заступніцтва. Шаўчэнка яднае пакаленні і кантыненты, ён выхоўвае чалавека грамадзянінам, патрыётам.

З арэапагам высокіх трыбун, дакладаў, гучных імён натуральна і пераканаўча глядзеліся карціны народных майстроў другой паловы XIX — першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя, пастаронкава вышыты спецыяльна да сёлетняга юбілею «Кабзар», шматметровыя ручнікі і іншыя цікавосткі, якія сведчылі пра глыбока асабістае стаўленне да Шаўчэнкі. Калі бачыш усё гэта, то разумееш: 1300 помнікаў і памятных знакаў па ўсім свеце, прысвечаных Т. Шаўчэнку, — гэта не толькі ўражлівая статыстыка, гэта сапраўды намоленыя месцы народнай памяці, любові і пашаны.

З Кіева ў Мінск я прывёз не толькі ўражанні, але і архіўныя знаходкі. Дакладней, аўтарамі гэтых знаходак былі ўкраінскія калегі, а я выканаў ролю рэтранслятара падзеі ў Беларусі і стаў яе першым даследчыкам. Гаворка ідзе пра невядомы аўтограф верша Янкі Купалы «Памяці Шаўчэнкі», які да Вялікай Айчыннай вайны захоўваўся ў доме-музеі класіка літаратуры ў Кіеве і пра які даследчыкам нічога не было вядома. У 1943 г. фонды музея былі вывезены на Захад, і сляды іх страціліся. Месцам апошняга захавання ўнікальнага збору, як аказалася, была Украінская Вольная Акадэмія Навук (УВАН) у ЗША. У 1992 — 1996, 2006 гадах пасля працяглых перамоў матэрыялы былі перададзены ў Інстытут літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі НАН Украіны і сталі візуальнай асновай унікальнага выдання «Вернутыя шаўчэнкаўскія рарытэты» (2010).

У паэтычнай спадчыне Я. Купалы ёсць два вершы, прысвечаныя класіку ўкраінскай літаратуры: «Памяці Т. Шаўчэнкі» (25.02.1909) і «Памяці Шаўчэнкі» (26.02.1909). Знойдзены белавы аўтограф першага верша цікавы ў некалькіх аспектах, якія істотна карэкціруюць традыцыйныя пазнакі. Па-першае, першаназва зафіксавана без ініцыяла «Т» («Памяці Шаўчэнкі»). Па-другое, рукой Купалы пазначаны час напісання твора, які не супадае з нам вядомым, — 15 лютага 1909 года. Па-трэцяе, афіцыйныя штампы і рэзалюцыі на аўтографе верша і суправаджальным дакуменце на імя Санкт-Пецярбургскага граданачальніка сведчаць пра дазвол на ўключэнне чытання верша аўтарам у праграму вечара-канцэрта ў Зале дваранскага сходу 26 лютага 1909 года, у дзень памяці Т. Шаўчэнкі.

Такім чынам, ужо на першасным узроўні фактaлогіі сёння можна засведчыць не толькі вялікае ўзбагачэнне шаўчэнказнаўства, але і новы дакументальны ўнёсак у купалазнаўства. А ў юбілейны год вялікага Кабзара ва ўкраінскага народа ёсць магчымасць падзяліцца не толькі ўзнёслай эмоцыяй свята, але і радасцю архіўнай знаходкі.



*Янка Купала на палубе парахода ў час паездкі на магілу Т. Шаўчэнкі ў Канеў. 1939 г.*

**Мікола ТРУС**

# Актуальны Тарас Шаўчэнка

**Здаецца, творчасць Тараса Шаўчэнкі была найбольш актуальнай для беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя, у эпоху «Нашай Нівы». Ці так гэта насамрэч? Як суадносіцца развіццё ўкраінскай і беларускай літаратуры ад Шаўчэнкі да Янкі Купалы? Над гэтымі пытаннямі разважае Павел Навойчык, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры славянскіх літаратур БДУ.**



**— Што вы лічыце галоўным у творчасці Тараса Шаўчэнкі як беларускі літаратуразнаўца?**

— Калі коратка, то, напэўна, так: унікальнасць паэтыкі, вызваленчы і гуманістычны пафас, народнасць.

Калі ж разгарнуць адказ, то вельмі важны ў творчасці Шаўчэнкі зварот да гістарычнага мінулага свайго народа. Магутнай сілай таленту паэт сцвярджае нацыянальны вобраз украінца як нашчадка слаўных казакоў, якія бясстрашна змагаліся за свабоду. У творах Шаўчэнкі паўстае вобраз героя-пакутніка, для якога прычына нацыянальнай і асабістай трагедыі найперш у страце свабоды, а не ў беднасці. Гэта ідэя прагучала вельмі своечасова. Ён абудзіў патрыятызм сярод інтэлігенцыі і ліберальнага панства. Чытаючы Шаўчэнку, украінец пачынаў адчуваць (а не толькі разумець!) сваю прыналежнасць да слаўнага гераічнага народа і ўспрымаў як асабістую крыўду страту былой волі. Адсюль значэнне творчасці Шаўчэнкі вырастае далёка за межы ўласна літаратурнага жыцця.

**— Як суадносіліся літаратурная сітуацыя ва Украіне і на Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя?**

— У азначаны перыяд украінская і беларуская літаратуры знаходзіліся ў даволі адрозным становішчы. Украінцы ўжо ў поўнай меры «асвоіліся» ў агульнаеўрапейскім літаратурным кантэксце — дзясяткі аўтараў і сотні высокамастацкіх твораў! Паспяхова развівалася літаратурная крытыка, былі першыя спробы напісаць гісторыю нацыянальнай літаратуры.

Беларусы ж, па вялікім рахунку, не мелі ні прозы, ні драматургіі, ды і паэзія была даволі слаба прадстаўлена. Творы пачынальнікаў новай беларускай літаратуры былі і застаюцца важнымі як праявы станаўлення нацыянальнага мастацтва слова, але гэта яшчэ не паўнавартасная разгалінаваная сістэма родаў і жанраў літаратуры.

Падабенства ж беларускай і ўкраінскай літаратур праяўлялася ў сарыентаванасці на шырокія народныя масы, пераважна сялян. Частым было выкарыстанне фальклорных сюжэтаў і распрацоўка сацыяльнай праблематыкі.

**— Для пісьменнікаў-нашаніўцаў творчасць Т. Шаўчэнкі, здаецца, была больш блізкай, чым творчасць іх украінскіх сучаснікаў — ці так насамрэч? Калі так, то гэта заканамернасць альбо парадокс?**

— Сапраўды, так. І гэта не парадокс. Проста ідэйная скіраванасць паэзіі Кабзара больш адпавядала нацыянальна-адраджэнскаму пафасу нашаніўскай літаратуры. Маладыя ж украінскія пісьменнікі канца XIX — пачатку XX ст. ужо адышлі ад тэндэнцыйнасці, ад разумення ролі мастацтва як слугі толькі нацыянальнай і сацыяльнай ідэі. З лёгкай рукі Міколы Варанога, а таксама праз творчасць Лесі Украінкі, М. Кацюбінскага ды Івана Франка ва ўкраінскай літаратуры на высокім мастацкім узроўні заявілі пра сябе неарамантызм, сімвалізм, імпрэсіянізм і іншыя плыні мадэрнізму.

**— Што ў паэзіі Т. Шаўчэнкі было блізкім беларускім аўтарам — не толькі Коласу і Купалу, але і творцам пазнейшым?**

— Пра ідэйна-тэматычную, вобразную блізкасць паэзіі Шаўчэнкі і класікаў беларускай літаратуры (найперш Купалы і Коласа) сказана даволі многа. Менш выразна бачны ўплыў лірыкі Кабзара на Багдановіча. Між тым вядома, што Багдановіч напісаў два артыкулы да стагоддзя з дня нараджэння Шаўчэнкі. Яны вызначаюцца высокім прафесіяналізмам, дакладнасцю ацэнак і вывадаў. Беларускі пісьменнік вельмі дакладна паказаў, у чым канкрэтна хаваецца ўнікальнасць паэзіі Шаўчэнкі, і ўбачыў у гэтым перспектыўны шлях для ўкраінскай і беларускай паэзіі. Напэўна, да стварэння чагосьці падобнага, але на нацыянальнай беларускай глебе, імкнуўся і сам Багдановіч. Меркаваць так дазваляюць вершы «беларускага складу» і словы пісьменніка з яго артыкула «Забыты шлях»: «Беларускіх вершаў у нас яшчэ не было — былі толькі вершы, пісаныя беларускай мовай».

У 1930-я гады цікавасць беларускіх аўтараў да паэзіі Тараса Шаўчэнкі поруч з іншымі прычынамі была абумоўлена таксама тым, што многія яго вершы, скіраваныя супраць царскай дэспатыі, аказаліся надзвычай актуальнымі ў час сталінскіх рэпрэсій. Хіба не хацелася Якубу Коласу сказаць ад свайго імя тое, што ён гаварыў словамі Кабзара, перакладаючы яго паэму «Неафіты»:

*«Няма сям'і, і няма хаткі,*
*Няма ні брата, ні сястры,*
*Каб з горам цяжкім не хадзілі,*
*Не каваліся ў турме*
*Або ў далёкай старане…»*

**— У чым творчасць Тараса Шаўчэнкі можа быць актуальнай для сучаснага беларускага чытача ці даследчыка?**

— Актуальнай яна застаецца тым жа, чым была цікавай і для сучаснікаў Шаўчэнкі: патрыятычным пафасам, гуманізмам, а яшчэ — пашанай да маці, каханай, увогуле жанчыны — наш прагматычны час значна абясцэніў культ жанчыны-маці. Невыпадкова Іван Франко назваў Тараса Шаўчэнку самым паслядоўным абаронцам жаночай долі.

Што да патрыятычнага пафасу, то калі паэту быў трыццаць адзін год, ён напісаў свой знакаміты «Запавет» («Як памру, дык пахавайце…»). У той час Шаўчэнка хварэў на двухбаковае запаленне лёгкіх, і смерць была рэальнай перспектывай. Паэт у вершы сцвярджае, што самае галоўнае ў яго жыцці — вызваленне радзімы. Паказальна, што гэты верш перакладалі на беларускую мову больш як дзесяць разоў, фактычна, на працягу ўсяго апошняга стагоддзя. Імёны перакладчыкаў — Купала, Бядуля, Танк, Барадулін — вызначае пацвярджэнне блізкасці і надзённасці спадчыны Кабзара для беларусаў.

**— Якія вашы любімыя радкі з Шаўчэнкі?**

— «Ад малдаваніна да фіна/На мовах ўсіх усё маўчыць…/Бо благадзенствуе…» Гэты аксюмаран з «Каўказа» Шаўчэнкі захапляе прыхаванай іроніяй. Ён выдатна ілюструе атмасферу свайго часу і разам з тым актуальны для любой эпохі, калі пад ціскам знешніх абставін чалавек можа страціць пачуццё ўласнай годнасці і стаць пакорлівым рабом.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Ён!

Ён нарадзіўся ў нікому не вядомым украінскім сяле Морынцы на Чаркашчыне. У дзевяць гадоў страціў маці, у адзінаццаць — бацьку. Але высілкам нязломнай волі пераадолеў сіроцтва, адсутнасць бацькоўскай апекі замяніў сяброўскай цеплынёй і спагадлівасцю.

Ён нарадзіўся рабом, да дваццаціпяцігадовага ўзросту быў прыгонны, але дзякуючы свайму таленту, працавітасці і добрым людзям (К. Брулоў, Я. Грабінка, В. Жукоўскі, І. Сашэнка і інш.) вызваліўся з прыгону задоўга да яго афіцыйнай адмены.

Ён у пятнаццацігадовым узросце быў назаўсёды разлучаны з маці-Украінай, пазней толькі тройчы наведваў яе. Жыў у Вільні, Санкт-Пецярбургу, на казахскай зямлі... Але ніхто з сучаснікаў не мог параўнацца з ім у веданні Украіны — яе гісторыі, культуры, прыроды, яе несмяротнае душы.

Ён за любоў да Бацькаўшчыны, да «рабів німих» — суродзічаў-сялян («Я по плоті і духу син і рідний брат нашого безталанного народу...»), за нянавісць да іх прыгнятальнікаў («Сон», «Великий льох», «Єретик», «Кавказ» і інш.), за цвёрдую веру ў тое, што «на оновленій землі врага не буде, супостата», за заклік «повставайте, кайдани порвіте» — за ўсё гэта царом Мікалаем І на доўгія дзесяць гадоў быў сасланы радавым салдатам у глухія казахскія стэпы «под наистрожайший надзор с запрещением писать и рисовать». Аднак, пражыўшы ўсяго 47 гадоў, здолеў перажыць і таго цара — фізічна, і ўсіх рускіх цароў разам узятых, ранейшых і наступных, — духоўна.

Ён выдатна ведаў «свободный и могучий русский язык», выявіў гэтае веданне ў многіх тэкстах (паэма «Тризна», аповесць «Музыкант», «Дневник» і інш.), мог бы стаць *другім* рускім Гогалем. Яго спакушалі гэта зрабіць — грашыма, пасадамі, славаю. Але ён не здрадзіў прыгнечанаму і занядбанаму роднаму ўкраінскаму слову, самаададна шліфаваў і адточваў яго ў мастацкіх творах, прапагандаваў сярод украінскіх дзетак у сваім «Букваре южнорусском» — на дзіва і добрую зайздрасць усяму славянству.

Ён адчуваў неразуменне, непрымание не толькі людзей недалёкіх, неразумных, але і выдатных, высокаталенавітых (напрыклад, В. Бялінскага). І ўсё ж, праглынуўшы даўкі і несправядлівы камяк абразы, ішоў адзіна правільным, назаўсёды абраным шляхам, абапіраючыся на плячо сяброў, прыяцеляў і больш дальнабачных асоб («Он — поэт совершенно народный, такой, какого мы не можем указать у себя», — М. Дабралюбаў).

Ён, як вялікі патрыёт, больш за ўсё і ўсіх на свеце любіў сваю «неньку Украіну». Нават — больш за Бога: «Я так її люблю, Мою Вкраїноньку убогу, Що проклену самого Бога...» Пад'ярэмная Украіна яго вуснамі жорстка дакарала Багдана Хмяльніцкага за здачу самастойнасці: «Ой Богдане, Богданочку! Якби була знала, У колисці б задушила, Під серцем приспала». Але ў тагачаснай Расійскай імперыі не было большага, чым ён, славяналюба і народалюба, які б паважаў усе іншыя народы, у тым ліку і найперш — народ рускі і яго сапраўдных вольналюбівых, дэмакратычных лідараў: дзекабрыстаў, А. Пушкіна, М. Лермантава, А. Герцэна, М. Чарнышэўскага.

Ён тварыў украінскую нацыю: вяртаў украінцам гістарычную памяць, культурную прастору, абуджаў у іх пачуццё самапавагі і самадастатковасці, годнасці і гордасці, украінскае народнае маўленне ўзнімаў да ўзроўню самых дасканалых, высокаразвітых еўрапейскіх літаратурных моў. Ён ведаў, што культура — не толькі заваёва, але і зброя. Разам з тым ён абуджаў ад шматгадовага летаргічнага сну і іншыя народы.

Ён ніколі, нават у самыя змрочныя часіны, не губляў веры ў светлую будучыню свайго краю і народа, калі Дняпро «понесе з України у синєє море кров ворожу», і верай гэтаю, і змаганнем за гэта запальваў сэрцы знявераных сучаснікаў. Ён бачыў скрозь дзесяцігоддзі: у сярэдзіне XIX стагоддзя — незалежную Украіну пачатку XXI стагоддзя «в сім'ї вольній, новій» самастойных еўрапейскіх краін.

Ён часта быў незразуметы нават роднымі і самымі блізкімі людзьмі, але заўсёды заставаўся самім сабою і мог, смела глядзячы гісторыі ў вочы, сказаць: «Ми прямо йшли. У нас нема / Й зерна неправди за собою». Яго не зламалі турмы, ссылка, казематы Петрапаўлаўскай крэпасці. На волі і ў няволі, адносна здаровы і хворы, на Радзіме і ў далечыні ад яе — усюды насыпаў курган славы і бессмяротнасці роднай Бацькаўшчыне, узвышаючыся адначасова з ім, ажно пакуль не застыў на гэтым кургане бронзавым манументам.

Ён.

А ты?..

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Беларускі шлях Кабзара

Тарас Шаўчэнка і Беларусь — тэма шматаспектная і яскравая. Памыляецца той, хто лічыць, што Шаўчэнка прыйшоў у беларускую культуру пераважна дзякуючы дзейнасці «Нашай Нівы», што адзіным украінскім кумірам для нашаніўцаў быў Кабзар.




## УКРАІНСКАЯ ШКОЛА

Шаўчэнка сапраўды прыцягваў увагу ўдзельнікаў нашаніўскага руху. Але з яго імем фарміравалася тагачасная ўкраінская дэмакратычная думка, здзяйсняліся пісьменніцкія пошукі і ўкраінскага ўсходу, і ўкраінскага захаду. Нацыятворчыя памкненні ўкраінскіх дзеячаў мастацтва, увага да «маленькага» чалавека, прыгнечанага сацыяльна, нацыянальна, былі блізкімі і тагачаснай беларускай літаратуры. Нашаніўцы, натхнёныя Шаўчэнкавым геніем, пісалі пра Івана Франко, Лесю Украінку, знаёмілі чытачоў з найноўшымі публікацыямі ўкраінамоўных часопісаў XIX — пачатку XX ст. У прыватнасці, газета шырока прапагандавала творчасць Васіля Стафаніка праз пераклады яго прозы, дасканалай па форме, глыбокай па змесце. На «школе» гэтага навеліста выхоўваўся, па яго ўласным прызнанні, і знакаміты Кузьма Чорны, а пад уздзеяннем Шаўчэнкі пачыналі свой творчы шлях многія пісьменнікі-адраджэнцы, найперш Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун.

## З ВІЛЬНІ...

Нагадаем, што ва ўзросце пятнаццаці гадоў Тарас як прыгонны служка суправаджаў свайго пана, які з украінскага поўдня праз беларускія землі кіраваўся ў Вільню, — і мінуў Лоеў, Рэчыцу, Жлобін, Бабруйск, Ігумен, Мінск. Менавіта тады паэт упершыню пазнаёміўся з беларусамі і іх жыццём. Пазней у аповесці «Музыкант» ён апісаў свае першае знаёмства з краем «*постоянно голодным*». Шаўчэнка знаходзіўся ў Вільні з восені 1829 г. па люты 1831-га. Разам з сям'ёю пана ён жыў у самым цэнтры горада, побач з Віленскім універсітэтам. Шаўчэнку пашчасціла атрымаць там урокі малявання ад вядомага віленскага мастака Яна Рустэма. З маленства Тарас быў далучаны не толькі да ўкраінскай, але і да польскай мовы. Ежы Енджаевіч, польскі пісьменнік, у творы «Украінскія ночы, ці Радавод генія», прысвечаным Т. Шаўчэнку, паказвае, што будучы паэт ужо ў час той вандроўкі пачынае прыслухоўвацца да праблем віленска-варшаўскага асяроддзя. Рэвалюцыйныя падзеі 1830-х гг. — адзін з важкіх чыннікаў фарміравання творцы: у Вільні перад ім прыадкрыўся новы свет, свет дэмакратычных змаганняў Еўропы.

У юнака назаўсёды захаваліся ўспаміны пра віленскія краявіды, выдатную архітэктуру, людзей і падзеі таго часу, пра што сведчаць яго запісы ў «Дзённіку», згадкі пра Вільню ў творах «Музыкант», «Варнак». «Вільня такая ж дарагая майму сэрцу, як і твайму», — пісаў Шаўчэнка ў лісце да Браніслава Залескага, марачы пра сустрэчу з сябрам у Вільні, пра сумесную малітву перад Вастрабрамскай іконай. Ёсць у Шаўчэнкі верш, пазначаны паводле яго першага радка, «У Вільні, городі преславнім…», які не можа не скіраваць беларускага чытача да алюзій уласнанацыянальнага гісторыка-культурнага характару.

## У ПЕЦЯРБУРГ

Шаўчэнка ўсвядоміў беларускасць Вільні ўжо ў Пецярбургу. Паводле ўспамінаў пецярбургскіх калег, ён быў пазітыўным чалавекам, любіў людзей, ствараў сваёй прысутнасцю атмасферу сяброўства. Шаўчэнкаў магнетызм выявіўся прыцягальным і для выхадцаў з беларускіх земель. Пра гэта сведчыць праца Рамуальда Зямкевіча «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (1911). Аўтар паспеў сабраць успаміны рэальных людзей, якіх звязваў Пецярбург сярэдзіны XIX ст. Як давёў Зямкевіч, Шаўчэнка сябраваў з беларускімі пісьменнікамі Янам Баршчэўскім, Рамуальдам Падбярэскім і іх акружэннем, звязаным з Вільняй. Кабзар «*прасіў іх, каб чыталі яму свае беларускія творы, і асабліва зацікавіўся народнымі беларускімі песнямі*». Шаўчэнка крытыкаваў асобныя творы, а іншыя хваліў, даваў аўтарам парады, заахвочваў іх пісаць на роднай мове, з захапленнем выказваўся пра беларускія песні. Асабліва высока ён ацаніў ананімную паэму «Энеіда навыварат», заўважыўшы, што ў ёй найболей беларускага народнага элемента.

Шаўчэнка падзяліўся са сваім сябрам уражаннямі ад Беларусі падчас паездкі з Пецярбурга ва Украіну ў 1843 г. Гэтым разам яго «беларускі тракт» прайшоў праз Віцебск, Оршу, Шклоў, Магілёў, Прапойск, Чачэрск, Гомель. Рамуальд Падбярэскі ў газеце «Tygodnik Peterburski» (1844, 5 снежня), якая мела распаўсюджанне і на беларускіх землях, надрукаваў рэцэнзію на альбом Шаўчэнкавых малюнкаў «Живописная Украина». Аўтар даў высокую ацэнку як мастацкім, так і паэтычным творам, прыгадваў кнігу «Кабзар», паэмы «Гайдамакі», «Трызна», «Гамалія».

У 1860-х гг. Т. Шаўчэнка знаёміцца з новым колам пецярбургскіх беларусаў, сярод якіх — скульптар Міхаіл Мікешын, аўтар помніка Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве. Асобна варта адзначыць кантакты з Віктарам Каліноўскім, родным братам Кастуся Каліноўскага. Зразумела, тэма Беларусі і Вільні ўзнімаецца на новым узроўні. Згадаем таксама, што менавіта ў Вільні былі надрукаваны першыя польскамоўныя пераклады Шаўчэнкі, і дачыненне да гэтага мелі польска-беларускія пісьменнікі, у прыватнасці, зборнік «Кабзар» пераклаў Уладзіслаў Сыракомля (пераклад 1861 г., друк 1863 г.).

## ПАДСТУПНАЕ ДВУХМОЎЕ

Кніжка пачыналася невялікай прадмовай, якая выяўляла стаўленне перакладчыка да вялікага паэта: «*Тарас Шаўчэнка, паэт, наш сучаснік, які вядомы сваімі рознымі цікавымі жыццёвымі прыгодамі, заслугоўвае прызнання найбольшага сёння песняра Украіны. Адчуваючы, што яшчэ дачасна рабіць аналіз жыцця і творчасці жывога аўтара, мы пераклалі без каментарыяў ягоны «Кабзар», збор вершаў і паэм, што вызначаюцца мужнасцю, сілай, глыбокім веданнем народа і любоўю да яго. Украінская паэзія, якая распачала новую эру, не можа быць для нас чужой*». Перакладаючы паэзію Тараса Шаўчэнкі на шырока распаўсюджаную польскую мову, Сыракомля, як і ва ўласнай творчасці, адрасаваўся найперш да беларусаў. З дапамогай Шаўчэнкі ён імкнуўся ажывіць нацыянальную і сацыяльную свядомасць землякоў, для якіх прыклад самаахвярнага служэння аўтара «Кабзара» ўкраінскай мове, культуры, роднаму народу шмат што значыў. Асабліва важна гэта было напярэдадні паўстання 1863 г.

Трэба прызнаць, што ўкраінскія навукоўцы, на вялікі жаль, не ўлічваюць сітуацыі двухмоўя, якая была характэрнай асаблівасцю беларускага літаратурнага працэсу XIX ст. Таму беларускае акружэнне Шаўчэнкі праз яго валоданне польскай мовай пераважна трактуецца… як польскае. Так, у прыватнасці, у выданні «Шевченкова енциклопедія» (Київ, 2012, т. 1) пра Вільню пішацца наступнае: «У 19 ст. Вільно — місто чотирьох культур: польської, литовської, російської і єврейської». Відавочна, у гэтым выявілася і недастаткова выразнае папярэдняе пазіцыянаванне праблемы беларускімі навукоўцамі.

Распачатае Багдановічам навуковае асэнсаванне сакрэтаў паэтыкі Шаўчэнкі працягвалася беларускімі літаратуразнаўцамі праз усё XX ст. Сёння ж беларуская даследчыкі паглыбляюцца ў сферу судакранання творчасці Шаўчэнкі з іншымі славянскімі літаратурамі. У прыватнасці, В. Рагойша, М. Хмяльніцкі па-новаму звяртаюцца да тэмы «Шаўчэнка і польская літаратура», бо многія з творцаў, якія гарнуліся да Кабзара, з'яўляліся *польска-беларускімі пісьменнікамі*.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

# Слова як паратунак

**Тарас Шаўчэнка, Галіна Тарасюк, Олеся Сандыга, Аляксей Кананенка — іх творы аб'яднаны адным перакладчыцкім прачытаннем. Гэта як экзамен для Таццяны Сівец, якая ў апошні час усе болей працуе на ніве ўмацавання беларуска-ўкраінскіх стасункаў. Плён гэтай працы асабліва патрэбны і актуальны сёння. У Беларусі за апошняе стагоддзе не перасыхала рака літаратурнага пабрацімства. Няма ніякіх сумненняў, што не перасохне яна і зараз. Падаецца, цяпер варта задумацца пра тое, што наспеў час для выдання анталогій сучаснай украінскай паэзіі, сучаснага ўкраінскага апавядання. Усе падставы для гэтага ёсць.**

**Мікола Раўнапольскі**

**Тарас ШАЎЧЭНКА**



***

*Закувала зязюлечка*
*У зялёным гаі,*
*Заплакала дзяўчыначка,*
*Што сябра не мае.*
*А гадочкі маладыя*
*Знічкамі мільгаюць.*
*Бы пялёсткі залатыя,*
*Па вадзе сплываюць.*

## Думка

*Цячэ хваля ў сіне мора,*
*Ды не выцякае;*
*Казак долечку шукае,*
*А долі не мае.*
*Куды вочы пазіраюць,*
*Казачэнька рушыў;*
*Там, дзе сіне мора грае,*
*Думку чуе скрушну:*
*«Куды крочыш і адкуль ты?*
*На каго пакінуў*
*Бацьку роднага, матулю,*
*Любую дзяўчыну?*
*На чужыне злыя людзі —*
*Цяжка з імі жыці!*
*Ні паплакаць з імі будзе,*
*Ні пагаварыці!»*
*Сеў казак на камень-бераг —*
*Грае сіне мора.*
*Думаў, долечку сустрэне, —*
*А спаткаўся з горам.*
*Жураўлі лятуць з чужыны*
*Дадому гурмою.*
*А казацкія сцяжыны*
*Зараслі травою.*

***

*Зачаруй мяне, вяшчуне,*
*Старац сівавусы!*
*Тваё сэрца ўжо не чуе,*
*Я ж свайго баюся.*
*Я баюся спапялёну*
*Гаць душы падзерці*
*Ды з халоднага палону*
*Вызваліці сэрца.*
*Можа, вернецца надзея*
*З горкаю вадою,*
*З той гаючаю і дзейнай*
*Дробнаю слязою —*
*Можа, вернецца з-за свету*
*Зімку зімаваці,*
*Ды пабеліць і асвеціць*
*Сцены ў маёй хаце.*
*Ды сагрэе-адагрэе,*
*Каганец засвеціць…*
*Можа, зноўку задурэюць*
*Мае думы-дзеці.*
*Можа, памалюся зранку,*
*А пасля заплачу.*
*Можа, сонца нашай праўды*
*Я хоць раз пабачу…*
*Стань жа: братам, хай падманеш.*
*Скажы, што рабіць мне:*
*Ці маліцца, ці аб камень*
*Галаву разбіці?!*

***

*Не зайздросці багацею:*
*Багацей не знае*
*Ні любові, ні кахання —*
*Спрэс усё купляе.*
*Не зайздросці чужой моцы,*
*Што спіны схіляе.*
*Не зайздросці чужой славе:*
*Тут справа малая.*
*Бо не любяць чалавека,*
*А цяжкую славу,*
*Што ён з плачам ды пакутай*
*Кінуў на забаву.*
*А як сыдуцца малойцы —*
*Воку глянуць люба,*
*Нібы ў рай патрапіў, толькі*
*Зноў чакае згуба.*
*Не зайздросці ж ты нікому,*
*Пагляддзі наўкола:*
*На зямлі не маем раю,*
*Неба невясёла.*

***

*Не жаніся ты з багатай,*
*Як хаты не маеш.*
*Не жаніся з сірацінай,*
*Як спаці жадаеш.*
*Пабярыся з вольнай воляй,*
*З казаковай доляй:*
*Якой будзе, такой будзе,*
*Як гола, дык гола.*
*Ды ніхто не перайма*е
*І не патурае —*
*Што і дзе баліць хлапчыне,*
*Ніхто не пытае.*
*А што ўдвох і плакаць лепей,*
*Брэшуць жа, няйначай.*
*Ты не вер: найлепей плакаць,*
*Як ніхто не бачыць.*

**Олеся САНДЫГА**



## Зімовы вечар

*Над шматпавярхоўкаю*
*Са светам развітваецца*
*Паўтвары*
*Месяц-*
*Мярцвяк*

*У неба пальцы збялелі*
*Цяжар гэткі*
*Трымаць на марозе*
*І не разбіць*

*Паветра*
*Крохкае і празрыстае*
*Як цэлафан*
*Каля самай зямлі*
*Снегам набракла*

*Па кроплі сплывае за далягляд*
*Сонца пунсовае*
*Выгукам «Жыць хачу!»*
*Стрэхі апошніх паверхаў*
*Запырскала*

*Яго колер яскравы*
*І подых гарачы мой —*
*Нетутэйшыя*

*А вечар бы зліняла сарочка*
*Прастрэленая навылёт заходам сонца*
*Парваная на ўзроўні майго горла*
*Пан Бог яе і мые і цыруе*
*Бо новую не мае за што справіць*

*Я прытулюся носам да вакна*
*Адна*
*Паверх дзявяты*
*І мой дзень нараджэння — заўтра*

***

*Разматляла ссівелыя пасмы па вуліцах*
*старасць,*
*І самота ізноў залівае слязьмі тратуары.*
*Павярнулі і твары, і вочы ўсярэдзіну людзі*
*І снуюць між асфальтам і болем,*
*аднолькава будзе*
*Ім лунаць, бы кітайскім ліхтарыкам,*
*па-над затопленай глебай,*
*А скрозь целы старыя іх душы*
*прасвечваюць небам.*

*Хтосьці запальвае свечкі,*
*хтось паліць старыя надзеі,*
*Пахне ядлоўцам, і цені балююць на сценах.*
*Цёплы плед і віно — на кагосьці чакаюць,*
*напэўна.*
*Ах, як добра пад пошапт дажджу яна*
*грае Шапэна!*
*Людзі — нібыта ліхтарыкі*
*па-над затопленай глебай,*
*І ў дажджы так утульна*
*іх душы прасвечваюць небам.*

*Іх агні — нібы зоры,*
*што згаснуць у дзённым тумане.*
*Я іх дужа люблю, бо ў сабе аніяк не ўтрымаю:*
*Мая шэрань парожняя,*
*вочы — лістота няйначай.*
*Бо калі ідзе дождж —*
*гэта ў небе душа мая плача.*

***

*У сусвеце маім*
*Раптоўна з'явілася сэрца.*

*Замест зледзянелага белага сонца*
*У беспаветранай плыні*
*На месяцовай паверхні душы*
*Раптоўна з'явілася сэрца.*

*Распятае за мой грэх, мой страх,*
*Пампэ за мяне*
*Без надзей на Вялікдзень*
*Сэрца чужое недасканалае.*

*Разбурыла празрыстасць вечнасці*
*Зваротным адлікам,*
*Парушыла рух нязнанага*
*Плямаю недарэчнаю*
*Чырвонага безабароннага мяса.*

*Са скляпенняў павылезлі*
*Здані даўно нежывыя,*
*Спалоханыя*
*Жорсткім рытмам мінулага.*

*Стаяць, голаў задраўшы,*
*І дзівяцца*
*На недарэчнае існаванне*
*Жывых.*

*Моўчкі чакаюць,*
*Калі ж адбудзецца*
*Адарванне.*

*Стаю сярод іх і знаю,*
*Што хтосьці далёкі думае:*
*Вось дурніца.*
*Дзеля чаго ўсё? Навошта?*

*Над шэрым кратарам волі*
*Баліць сэрца...*

**Галіна ТАРАСЮК**



***

*Ой, мой коню,*
*рассупоню*
*залатыя шлеі —*
*праляціш над Абалонню,*
*там, дзе неба днее.*

*Праляціш, падковы згубіш —*
*не паверыш волі…*
*І не трэба — воля згубна*
*тым, хто аніколі*

*не спаткаў яе…*
*Былінны,*
*конік мой мышасты,*
*воля — хай і на хвіліну —*
*даражэй за шчасце!*

## Дзецям

*Прашу:*
*не замыкайце браму,*
*не зачыняйце дзверы,*
*не захінайце вокны,*
*калі я пайду.*
*З далёкіх краёў*
*я аднойчы вярнуся да вас*
*цёплым ветрам,*
*расой вечаровай,*
*квітнеючай вішняй,*
*азяблай сінічкай,*
*забытаю песняй,*
*лістом заблуканым,*
*шчасліваю навіною,*
*верным сабакам,*
*шчырым сябрам…*

*Не затуляйце сэрца.*

***

*Зялёных слоў, нібыта сліў,*
*скупая жменька:*
*ды не пялёсткі замялі*
*наш сад старэнькі.*

*Стаіць — счарнелаю крывёй*
*не грэе голле,*
*і слівы робяцца травой*
*пад небам голым.*

*Сад просіць Госпада дарма:*
*«Пашлі нам Словы».*
*І Бог адказвае: «Няма,*
*Ёсць толькі дровы».*

**Аляксей КАНАНЕНКА**



***

*І воран не чорны, і снег не бялюткі,*
*І я не наглядчык уласнае пусткі.*
*Не спіцца, а твары, бы маскі — насупраць,*
*Ты вольная птушка — ляці ж мне насустрач.*

*І воран не чорны, і снег не бялюткі,*
*Адчынены вокны — і люты не люты.*
*І поўня табе паказала дарогу,*
*А мне паківала з усмешкаю строгай.*

*І воран не чорны, і снег не бялюткі,*
*А ты не зважаеш на словы і чуткі.*
*Мяне ты караеш пагардлівым смехам,*
*Я твар не хаваю ад колкага снегу*

*Чорны воран, белы снег,*
*Ты ўзлятаеш, а я не,*
*Я заўжды, а ты — на час.*
*І нікому не да нас.*

***

*На ветразі ветрам парваныя хмары,*
*На першы-другі — засталося нас мала.*
*Забыцца на ўсё: і надзеі, і страты,*
*Мы доўга чакалі на нашае «заўтра».*

*У спіну не б'ём і не помнім пра боязь,*
*Сяброўства такое праверана боем.*
*Хай сёння не з дрэва млыны, а з бетону,*
*Завостраны коп'і, сядланыя коні.*

*Ды б'юць нас не кулямі — словам, маною,*
*Адказваць тым самым — напіцца віною.*
*На ветразі ветрам парваныя хмары,*
*На першы-другі — засталося нас мала.*

*Хай пругкі вятрыска паснулых абудзіць!*
*Час нам узняцца на крыўду вайной!*
*Можа, і шанца другога не будзе…*
*Гэй, Дон Кіхоты, за мной!*

***

*Зачыняе метро зіма,*
*Да цябе мне дайсці — ніяк.*
*Ты ідзеш да мяне сама,*
*Твае рукі ў маіх руках.*
*А на футры — калючы снег,*
*Зорка ў небе — найлепшы знак.*
*— Мы з табой больш не разам?*
*— Не…*
*— Мы сустрэнемся зноўку?*
*— Так…*
*З неба сыплецца першы снег*
*На замерзлыя гарады.*
*Днём ізноў ты мне кажаш «не»,*
*«Так» мне ноччу прашэпчаш ты.*
*Кленчу я і прашу, каб Бог*
*Усе дні з майго часу сцёр.*
*Я кахаю, я п'ю нагбом*
*І любоў сваю, і жыццё.*
*Поўня збілася з босых ног,*
*З поўняй разам піла зіма.*
*Ноччу цёмнай, бы збан з віном,*
*Нашых ценяў не затрымаць.*
*Будзе белым світанне зноў,*
*Ранкам выпадзе першы снег.*
*Ты сыходзіш, але вясной*
*Знаю, вернешся да мяне.*

**Пераклад з украінскай Таццяны Сівец**

*Паралелі*

# Парыж — Уладзівасток

**Не так даўно, падчас семінара для кнігавыдаўцоў у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску, кіраўнік аддзела продажаў і маркетынгу нямецкага выдавецтва «Піпер Ферлаг» спадар Ціна Улеман распавядаў, што сёння ў асартыменце кнігарняў Германіі толькі 6 працэнтаў ад агульнай колькасці займаюць выданні для падарожнікаў — спецыялізаваныя турыстычныя даведнікі. Паводле меркавання спецыяліста, праз некалькі год гэты сегмент літаратуры ўвогуле можа знікнуць: вандруючы, людзі часцей і часцей карыстаюцца інтэрнэтам.**



*Фота з сайта www.babelio.com*

Думаецца, слушная заўвага, але толькі ў дачыненні да звычайных даведнікаў, што могуць адно падказаць маршрут і параіць, якія мясціны наведаць. Раманы, аповесці, апавяданні альбо падарожныя нататкі, дзе аўтары-спецыялісты апісваюць свае ўражанні ад вандровак у далёкія і загадкавыя краіны, заўсёды будуць актуальнымі і не знікнуць з кнігарняў. Варта хаця б прыгадаць «Аднапавярховую Амерыку» — кнігу Ільфа і Пятрова пра двухмесячнае падарожжа па Злучаных Штатах, такой загадкавай для савецкага жыхара 1930-х гадоў краіне. Ці «Рускі дзённік» нобелеўскага лаўрэата Джона Стэйнбека, мэтай якога было паказаць жыццё ў СССР у гады халоднай вайны. Сёння мы з задавальненнем гартаем падарожныя нарысы Цёткі «З дарогі» і «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю», напісаныя ў пачатку ХХ стагоддзя, а таксама звяртаемся да публіцыстычных кніг нашага сучасніка Уладзіміра Познера «Тур дэ Франс» і «Іх Італія. Падарожжа-разважанне». Гэты спіс можна доўжыць і доўжыць… Але ў ім, нарэшце зважаючы на загаловак тэксту, абавязкова варта згадаць кнігі французскага аўтара Седрыка Гра.

Шатландскі паэт Роберт Бёрнс пісаў: «У гарах маё сэрца…», а вось Седрык Гра адначы заявіў: «Сэрца маё ў расійскіх стэпах…» Паўночны ўсход Расіі так спадабаўся маладому географу, альпіністу і падарожніку з-пад Парыжа, што ён прыняў прапанову выкладаць французскую мову ў Далёкаўсходнім універсітэце Уладзівастока, стаў вывучаць рускую і ўвесь вольны час вандраваў па бяскрайніх прасторах такой невядомай і загадкавай усходняй часткі Расіі. Сёння Седрык размаўляе па-руску без перакладчыка, свабодна разважае пра адметнасці рэгіёна, а яшчэ мае тры ўласныя кнігі пра падарожжы. Падчас сустрэчы на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы Седрык распавёў пра свой шлях у літаратуру і адметнасці напісання кніг пра вандроўкі. З яго маналогу я паспрабавала вылучыць парады і перасцярогі аўтарам, якія збіраюцца ўражанні ад паездкі ці паходу выкласці ў мастацкі тэкст.

## ЛІТАРАТУРА + ПАДАРОЖЖА = ?

— Калі ў мяне пытаюцца, чым я займаюся, я кажу, што пішу «падарожныя нататкі». Але французскія творы падобнага кшталту крыху адрозніваюцца ад расійскіх. У Францыі пасля Другой сусветнай вайны гэты жанр атрымаў вельмі добрае развіццё, сёння многія аўтары звяртаюцца да яго, і такія выданні цудоўна прадаюцца.

Я стараюся сачыць за навінкамі рускамоўнага літаратурнага свету і бачу, што і тут з'яўляецца ўсё больш і больш кніг пра падарожжы. І гэта заканамерна. Мне падаецца, што літаратура і падарожжы — дзве ўзаемазвязаныя з'явы. Калі мы вандруем, то многа чытаем. І я, перш чым стаць пісьменнікам, стаў добрым чытачом. Цяпер нават цяжка чытаць дома, седзячы ў крэсле, а падчас падарожжа чытаю з задавальненнем.

Але перш чым захапіцца літаратурай, я захапіўся падарожжамі, вандрую ў горы — напэўна, таму і зацікавіўся прыгодніцкай літаратурай. Часта кажуць, што першыя пісьменніцкія спробы ў жанры падарожных нататак становяцца крокам да напісання больш сур'ёзных твораў — вялікіх раманаў. Аднак многія вядомыя аўтары, паважаныя людзі шмат гадоў працуюць у гэтым жанры і распавядаюць пра тое, што такое дарога, што з імі адбываецца. Важна толькі правільна выбраць тэму і стыль выкладання.

Горы прывялі мяне ў Расію. Калі я ўпершыню наведаў гэтую краіну, мне быў вельмі цікавы сам рэгіён. 1990-я гады сталі эпохай вялікіх вандровак у французскім свеце, да прыкладу, было здзейсненае кругасветнае падарожжа на веласіпедзе, натуральна, ўражанні ад паездкі адбіваліся і ў нататках аўтараў, а яны, у сваю чаргу, станавіліся паўнавартаснымі літаратурнымі творамі — бо былі поўныя новых фактаў, знаходак, адкрыццяў.

## НЕ ПАТРАПІЦЬ У ПАСТКУ ШТОДЗЁННАСЦІ!

— Працуючы ў гэтым кірунку, аўтар павінен ведаць пра небяспечнасці, якія могуць напаткаць яго ў працэсе працы. Да прыкладу, часта справа зводзілася да таго, што падарожнікі занадта падрабязна распавядалі пра паездку, пісалі пра тое, што з імі адбывалася штодня, ды і самі не ведалі, якія значныя моманты вылучыць і акрэсліць. Іншы стыль выкладання матэрыялу меў на ўвазе працу над формай і стылем. Менавіта гэты кірунак стаў той літаратурай пра падарожжы, якую мы цэнім сёння ў Францыі.

З часам і я пачаў весці дзённікі, занатоўваў нешта. Многія сучасныя вандроўнікі маюць блогі, дзе яны распавядаюць пра свае прыгоды, але гэта яшчэ не кнігі. Калі я вырашыў напісаць кнігу, то перш за ўсё падумаў: як пісаць, каб не патрапіць у пастку расповеду пра тое, што з табой адбылося за дзень? Калі гаворка пра мастацкую літаратуру, то цяжкасці з атрыманнем візы, страта грошай і сумак — усё гэта ўжо не так значна і цікава. Можа, мая мама зацікавілася б, але не чытач рамана, які будзе прадавацца тысячамі асобнікаў. Гэта няправільны падыход.

Яшчэ адзін момант: трэба, каб аўтару было што сказаць. Расія стала для мяне неабходнай кропкай адліку. Я 6-7 гадоў падарожнічаў па ўсходняй частцы гэтай краіны. 4 гады вучыўся і выкладаў ва Уладзівастоку, наведаў Омск, Магадан, Сахалін. Многія кнігі, што напісаны сёння пра Расію, не перасягаюць Урал. Хоць французы і цікавяцца гэтай краінай, і нават прыкладна ведаюць, дзе знаходзіцца Уладзівасток, менавіта пра ўсходнюю яе частку выданняў дагэтуль было мала.

Я падумаў: як распавесці пра ўсё, што пабачыў за час падарожжаў, не прытрымліваючыся нейкай храналагічнай паслядоўнасці, а выбраць толькі самае значнае? У выніку ад храналогіі я адмовіўся. Зусім. Першая мая кніга мае назву «Уладзівасток, снягі і мусоны», яна выйшла ў 2011 годзе. Тут я паспрабаваў намаляваць партрэт горада праз погляд на яго ў розныя поры года. Гэта былі ўражанні, не звязаныя з пэўнымі фактамі. Атрымаўся няблага раман, ён добра прадаваўся ў французскіх кнігарнях.

## КАЛІ НЕ ВЕДАЕШ, НЕ ПІШЫ!

— Потым з'явілася думка пра наступны твор — па матывах маіх пяцігадовых падарожжаў. Мне было цікава асэнсаваць, чаму нават у свядомасці рускіх Уладзівасток — паўночны горад, хоць знаходзіцца ён на той жа шыраце, што і Ніца ў Францыі. І вось такія развагі маглі мяне завесці ў тупік.

Яшчэ адна пастка, што прысутнічае ў гэтым жанры літаратуры апроч расповеду пра паўсядзённае жыццё, — не перайсці да размовы пра тое, што не адпавядае рэчаіснасці. Не пісаць, чаго не ведаеш дакладна, не спрабаваць выглядаць вельмі разумным. Таму трэба шмат чытаць. Менавіта дзякуючы глыбокаму вывучэнню тэмы я змог пісаць наступную кнігу — «Поўнач — гэта Усход. На краі Расіі».

## КАХАЦЬ НАСУПЕРАК АДЛЕГЛАСЦІ

— Я ўвесь час думаю пра тое, ці ёсць сувязь паміж падарожжам і каханнем? Як іх паяднаць? І тэма расстання, нават калі не назаўсёды, блізкая кожнаму. Бо калі паміж каханымі ёсць адлегласць хаця б у 30 кіламетраў, як два чалавекі могуць працягваць кахаць адно аднаго? Як можна сесці ў цягнік і паехаць, а той, каго ты кахаеш, застанецца? Мне самому даводзілася перажываць такія пачуцці, бо я шмат падарожнічаю. І адказы менавіта на гэтыя пытанні я спрабую знайсці ў навелах, што склалі маю новую кнігу «Пяшчота і далячынь».

Сюжэты навел, якія ўвайшлі ў новае выданне, часта прыдуманыя. Гэта не абавязкова мае перажыванні, але і расповеды калег, напрыклад. Выдумка дазваляе захаваць тэму і не распавядаць пра падзеі майго ўласнага жыцця. Я б нават не хацеў дзяліцца з чытачом тым, што здарылася менавіта са мной, хаця лічу важным перадаць уласныя адчуванні, у тым ліку і каханне. У навелах я паразважаў, падарожнічаць аднаму ці ўдваіх, як наладзіць вандроўку. Але гэта не рэкамендацыі, хутчэй, агульныя ўражанні, мае думкі.

Адразу ж пасля выхаду кніга выклікала вялікую цікавасць з боку чытачоў і крытыкаў. У выніку я зразумеў, што гэтая тэма хвалюе публіку больш, чым расповеды пра Расію і Сібір. І сапраўды, калі чалавек становіцца экспертам і выдатна ведае пэўны рэгіён, то ў многім гэта абмяжоўвае яго магчымасці як пісьменніка, але больш шырокая і агульная тэма дае і большыя магчымасці.

## МОЖНА І ПАДМАНУЦЬ

— Часта расповед пра падарожжа ператвараецца ў навукова распрацаваную, амаль прыгодніцкую, дэтэктыўную прозу. Гаворка ідзе пра больш дакладную фіксацыю атрыманых звестак, дэталёвы расповед пра падзеі, што адбываліся ва ўмовах пэўнай краіны. Але калі мы падарожнічаем, а потым распавядаем пра вандроўку, вельмі хочацца згадаць факты і падзеі, якіх насамрэч не было. І літаратура дазваляе гэта зрабіць. Аўтар не падманвае наўпрост — ён крыху дадае, пашырае ці скарачае. І вось тут узнікае пытанне: ці павінна літаратура пра падарожжы гаварыць чыстую праўду? Ці можа яна быць выдумкай? Не так даўно французскаму пісьменніку была прысуджана прэмія за апавяданні, напісаныя на аснове яго падарожжаў на Байкал. Як правіла, у нашай краіне такія высокія прэміі ўручаюць перш за ўсё за выдатныя раманы, а не кароткую прозу. Тым не менш, паколькі яго стыль і самі расповеды вельмі спадабаліся журы і выдаўцам, то на кнізе напісалі «раман».

Але ці сапраўды важна правесці мяжу паміж раманам і апавяданнямі, дакладна іх адрозніць? Магчыма, не. Бо значныя перш за ўсё сама ідэя і змест. Таму галоўнае — не падманваць чытача, калі гаворка ідзе пра дакладныя факты. Вось гэта сапраўды істотна.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Тры забытыя малюнкі





*Знахар.*

При нараджэнні гэтага ўкраінскага хлопчыка Усявышні сказаў: «Я дару яму надзвычайны талент паэта і мастака, і вечнай будзе яго слава на гэтай зямлі!» А д’ябал, які ніколі не спіць у шапку, дадаў: «Але гэта здарыцца толькі тады, калі ён вытрымае ўсе выпрабаванні, якія я яму пашлю…» Так і здарылася. Зведаў хлопчык сірочую долю, поўнай лыжкай наеўся здзекаў прыгону, дзесяць год правёў у аральскіх стэпах, дзякуючы царскай ласцы насіў салдацкі шынель. Але ніякія выпрабаванні не змаглі зламаць яго горды і вольны дух, і назаўсёды гэтае імя высечана на скрыжалях пантэона славы герояў Украіны.

*Живу, учусь, нікому не кланяюсь*
*І нікого не боюсь, окреме Бога, —*
*Велике щастя*
*буть вольним чоловіком…*

**Тарас Шаўчэнка**

Праглядаючы падшыўку санкт-пецярбургскага штотыднёвіка «Ілюстрацыя» за 1848 год, я натрапіў на тры невялікія малюнкі. На адным з іх (пад назвай «Знахар») стаяў аўтограф Т. Шаўчэнкі. Два іншыя («Штукарствы знахара») — без подпісу, але не трэба было быць вялікім знаўцам жывапісу, каб зразумець, што аўтар той самы.

Нагадаю, што Т. Шаўчэнка падчас асваення майстэрства жывапісу прайшоў школу ад вучня дзяка-іканапісца да студэнта Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Журналіст В. Толбін у артыкуле «Вучні Брулова» пісаў: «Хутка Шаўчэнка зрабіўся адным з любімых вучняў славутага мастака. Яго старраннасць і поспехі былі настолькі хуткімі, што на наступны год ён быў узнагароджаны другім срэбным медалём за эцюд з натуры, а ў 1840 годзе атрымаў і першы (галоўны) срэбны медаль за карціну «Цыганя», якую набыў на выстаўцы вядомы Скобелеў. У 1841 годзе Шаўчэнка быў ужо вольным мастаком».

Адначасова з Шаўчэнкам у Акадэміі мастацтваў вучыўся паляк Канеўскі і ўраджэнцы Беласточчыны — браты Жукоўскія. Разам з Тарасам Шаўчэнкам яны займаліся афармленнем выдання «Рускія палкаводцы». Ілюстрацыі атрымалі станоўчыя адзнакі прагрэсіўнай крытыкі: «Партрэты вельмі добрыя», — пісаў Вісарыён Бялінскі. Доўгія гады мастакоў звязвалі сяброўскія адносіны. Іх не змог перарваць нават арышт Шаўчэнкі ў 1847 годзе. Рудольф Жукоўскі не толькі супрацоўнічаў з выданнямі «Rocznik Literacki», «Niezabudka», але і друкаваў малюнкі ў санкт-пецярбургскім штотыднёвіку «Ілюстрацыя». Так у № 155 1848 года змешчаны яго малюнак да «Беларускага вяселля» Рамуальда Падбярэскага і «Маласіяне ў карчме», а ў № 156 — «Скокі чухонцаў» (карэла-фінскага насельніцтва ваколіц Санкт-Пецярбурга). Таму можна меркаваць, што менавіта Р. Жукоўскі перадаў малюнкі Тараса Шаўчэнкі ў рэдакцыю папулярнага штотыднёвіка. На той час Тарас Рыгоравіч быў ужо арыштаваны. Трэба адзначыць і смеласць галоўнага рэдактара выдання Уладзіміра Зотава, які не пабаяўся надрукаваць малюнкі апальнага паэта.

Мастацкія творы Тараса Шаўчэнкі, як, дарэчы, і малюнкі Рудольфа Жукоўскага, адносяцца да так званых этнаграфічных. Я злавіў сябе на думцы, што яны вельмі прыдатныя для ілюстравання «Даследавання аб ваўкалаках» Паўла Шпілеўскага. Вось што ён піша: «Пастухі — народ кемлівы, праводзяць усё лета ў лясах і балотах (самых глухіх і нярэдка глейкіх), дзе толькі ёсць пасьба. Ад нечага рабіць збіраюць траву, сушаць карані кветак і ўсялякіх раслін, выпрабоўваюць іх лекавыя ўласцівасці над быдлам. Бывае і так, што пастух дае якога-небудзь травянога настою беднай закаханай дзяўчыне, потым звядзе яе цішком з абраным сябруком. І вось прагукалі па вёсках: «Наш пастух знахар! Наш пастух ведарскі (усяведны) чалавек, пабратаўся з нячысцікам-кадуком!» Вось так нараджаюцца беларускія знахары! Вось як лёгка дударам, млынарам і пастухам пры кемлівасці і спрытнай хітраватасці патрапіць у касту людзей няпростых, гэта значыць знахараў…»

Пасля вяртання паэта з высылкі яго чакаў цёплы прыём з боку прагрэсіўных грамадскіх і літаратурных колаў. Галоўны рэдактар «Ілюстрацыі» Уладзімір Зотаў таксама адгукнуўся артыкулам на першай паласе штотыднёвіка (№ 107, 1860 г.). Мяркую, сучасным чытачам будзе цікава пазнаёміцца з артыкулам, які даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю: у ім, як у люстэрку, бачна стаўленне тагачаснай расійскай інтэлігенцыі да творчасці вялікага сына ўкраінскай зямлі.

### Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка

*Біяграфічны нарыс*

З літаратур супляменных нам народаў бліжэй за ўсё літаратура маларасійская. Паміж мовай велікарускай і маларускай розніца такая невялікая, што нельга не прызнаць апошнюю толькі варыянтам першай. У філалагічным дачыненні гэта асабліва справядліва: граматычныя формы абедзвюх моў маюць мала адрозненняў, але па багацці выдатных твораў маларасійскай літаратуры нельга адмовіць у самастойнасці.

Значэнню маларасійскай літаратуры шмат пашкодзілі празмерныя намаганні яе прыхільнікаў, што лічылі яе вышэй за рускую. У ліку велікарускіх пісьменнікаў называюць Гогаля, але маларосы лічаць яго сваім. Мы не ведаем, аднак, ніводнага маларасійскага твора Гогаля, і калі б ён аддаваў перавагу гэтай мове, то пісаў бы на ёй, а не па-руску. Строгія крытыкі, як, напрыклад, Куліш, даказваюць нават, што Гогаль нядобра ведаў Маларосію і ўяўляў яе тыпы не такімі, якімі яны былі насамрэч.

У апошні час, пры агульным імкненні ўсіх моў да развіцця, на маларасійскай мове з’явілася некалькі выдатных твораў і пісьменнікаў. Але першы з маларасійскіх паэтаў, без сумнення, Т. Р. Шаўчэнка. Імя яго з любоўю і павагай вымаўляецца ўсімі, хто шануе Маларосію.

Жыццё Шаўчэнкі было невясёлым. Лёс выпрабоўваў яго цяжкімі ўдарамі і нястачамі, але паэтычны талент развіўся ў ім не з-за сумных абставін — быў сапраўдным падарункам прыроды. Паэт нарадзіўся ў адной з вёсак Кіеўскай губерні. Да дваццаці чатырох гадоў нідзе не выхоўваўся і не вучыўся. Толькі ў 1838-м у Пецярбургу, адчуваючы памкненне да жывапісу, ён пачаў наведваць класы Акадэміі мастацтваў. У гэты ж час зрабіўся вядомым публіцы і яго паэтычны талент. У 1840 годзе з друку выйшаў збор невялікіх паэм і арыгінальных вершаў пад назвай «Кабзар», у наступным годзе — вялікая паэма «Гайдамакі». Потым у харкаўскім альманаху «Маладзік» Т. Шаўчэнка надрукаваў некалькі балад і вершаў. Цяпер іх першае выданне зрабілася бібліяграфічнай рэдкасцю. Вось чаму было неабходна другое, якое з’явілася не так даўно.

З-за перамен у жыцці заняткі паэзіяй і жывапісам у Тараса Рыгоравіча перарваліся. Пасля ў Пецярбургу ён з новым запалам вяртаецца да мастацтва: займаецца гравіраваннем. Не пакідае і паэзію — апошнім часам у нашых часопісах з’явіліся яго выдатныя творы.

Ад Шаўчэнкі яшчэ шмат чакае мастацтва і маларасійская паэзія, але мы чакаем яго вершаў і на рускай мове. Г. Пляшчэеў пераклаў некаторыя з яго п’ес, але ніхто лепш за самога аўтара не можа перадаць сутнасць уласных твораў з усёй іх прастатой, сардэчнасцю, асаблівасцямі раскошнай маларасійскай паэзіі. Да вершаў Т. Шаўчэнкі прыкладзены яго партрэт, не зусім падобны да таго, які чытач бачыў звычайна: наш партрэт зроблены ў 1847 годзе, перад адпраўкай паэта ў кіргізскія стэпы» (*пераклад з рускай мовы мой* — **А. В.**).



*Штукарствы знахара.*

На шчасце, Тарас Шаўчэнка не паслухаўся «мудрай» парады Зотава. Ён стаў сімвалам адраджэння самасвядомасці украінскага этнасу. Яго творы аб’ядналі ўкраінскі народ, стварылі той генны код, які зрабіў украінцаў адзінай нацыяй. Пра гэта добра сказаў Іван Франко:

«Ён быў сынам мужыка і стаў валадаром у царстве духу.

Ён быў прыгонным і стаў волатам у царстве людской культуры.

Ён быў самавукам і паказаў новыя, светлыя і вольныя шляхі прафесарам і кніжным вучоным.

Дзесяць год ён таміўся пад цяжарам расійскай салдацкай муштры, а для волі Расіі зрабіў больш, чым дзесяць пераможных армій...

Доля праследавала яго ў жыцці колькі магла, ды не сумела пераварыць ні золата яго душы ў іржу, ні яго любові да людзей — у нянавісць і пагарду, а веру ў Бога — у зняверанасць і песімізм. Доля не шкадавала яму пакут, але не шкадавала і ўцех.

Найпрыгажэйшы і найкаштоўнейшы скарб доля дала яму толькі пасля смерці — неўміручую славу і квітнеючую радасць, якую ў мільёнах людскіх сэрцаў зноў і зноў абуджаюць яго творы.

Вось такім быў і ёсць для нас, украінцаў, Тарас Шаўчэнка».

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Ларыса МАХРАНКОВА, настаўніца рускай мовы і літаратуры, загадчыца Музея баявой і працоўнай славы Ганцавіцкай СШ Барысаўскага раёна, распавядае, як захоўваецца памяць пра тых, хто падчас Вялікай Айчыннай вайны ваяваў з ворагам на акупіраванай тэрыторыі:**

— На гразкіх і недасяжных для фашыстаў берагах возера Палік базіравалася 9 партызанскіх брыгад, у тым ліку і брыгада «Дзядзькі Колі», а таксама штаб Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны пад камандаваннем Рамана Мачульскага. У 60-я гады мінулага стагоддзя ў Іканскай СШ вырашылі ўвекавечыць памяць пра герояў, якія загінулі, змагаючыся з ворагам. Працу вучняў і педагогаў па стварэнні музея ўзначаліў настаўнік гісторыі Уладзімір Ігнатовіч. Актыўны ўдзел у гэтай карпатлівай справе ўзяў камандзір брыгады «Дзядзькі Колі», Герой Савецкага Саюза Пётр Лапацін. У 1964-м Музей народнай славы адчыніў дзверы для наведвальнікаў і неўзабаве перамог ва Усесаюзным конкурсе школьных музеяў ды набыў статус дзяржаўнага. Тады ж заклалі інтэрнацыянальны мемарыяльны Парк Герояў, дзе больш як 400 імянных дрэў.

8 мая 1986 года ў Іканскай СШ адкрылі другі музей — Мемарыяльны пакой памяці байцоў атрадаў спецыяльнага прызначэння. Школе было нададзена імя камандзіра атрада «Дапамога», Героя Савецкага Саюза Барыса Галушкіна. А праз год у Ганцавіцкай СШ імя Пятра Лапаціна заснавалі Музей баявой і працоўнай славы. З усіх куткоў Савецкага Саюза прыязджалі сюды былыя партызаны, сваякі загінулых, каб пакланіцца іх памяці.

Так атрымалася, што матэрыялы Мемарыяльнага пакоя Іканскай школы з-за рэарганізацыі ўстановы перадалі ў музей Ганцавіцкай СШ. Сёння ён з'яўляецца асноўнай інфармацыйна-экспазіцыйнай базай дадзеных пра баявую дзейнасць брыгады «Дзядзькі Колі» і атрадаў спецыяльнага прызначэння, якія дзейнічалі ў Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоне ў 1942 — 1944 гадах.

Пры музеі працуюць даследчае таварыства навучэнцаў і літаратурна-краязнаўчы гурток «Памяць». Дзякуючы намаганням вучняў і педагогаў тут створаны Мемарыяльны пакой байцоў спецыяльнага прызначэння. Шмат экспанатаў для яго знайшлі падчас паходаў па месцах партызанскай славы. Частку сваіх рарытэтаў нават перадалі для экспазіцыі Залы гісторыі доблесці і славы ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці.

Многія даследчыя працы членаў гуртка «Памяць» сталі пераможцамі абласных і рэспубліканскіх конкурсаў у намінацыях рэспубліканскай экспедыцыі «Наш край» і акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся». Юныя краязнаўцы — пастаянныя ўдзельнікі школьных і раённых навуковых канферэнцый. Наша каманда прадстаўляла Мінскую вобласць на рэспубліканскіх злётах юных даследчыкаў у Мінску і Брэсце. Краязнаўчыя матэрыялы выкарыстоўваюцца на ўроках, факультатыўных занятках і падчас розных мерапрыемстваў. Характэрна, што многія помнікі прыроды дзякуючы краязнаўчай дзейнасці навучэнцаў набылі статус помнікаў гісторыі.

Каля дзесяці гадоў наш музей супрацоўнічае з Залай гісторыі доблесці і славы ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці па ўвекавечанні памяці байцоў атрадаў спецыяльнага прызначэння і Музеем народнай славы вёскі Зембін. Напярэдадні святкавання 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў плануем правесці традыцыйны «Месячнік героя — 2014» і Вахту памяці. Нашы шэфы правядуць з навучэнцамі традыцыйны ўрок мужнасці «Ёсць такая прафесія — Радзіму абараняць».

*Музейны ўнікат*

# Газетны партрэт вайны

Сёлета спаўняецца 100 гадоў ад пачатку Першай сусветнай вайны. На Смаргоншчыне і цяпер можна знайсці «сведак» тых падзей: тут праходзіла лінія супрацьстаяння рускіх і немцаў на працягу некалькіх гадоў.



*Кіраўнік музея СШ № 3 Ларыса Багдасар'ян з газетамі 100-гадовай даўніны.*



*Экспанаты са школьнага музея.*

Літаральна ў кожным музеі можна пабачыць скруткі калючага дроту, гільзы ад снарадаў і патронаў, зброю і рэштκі амуніцыі. У музеі Смаргонскай сярэдняй школы № 3 захоўваецца некалькі экзэмпляраў «Петербургской газеты» за 1913 і 1916 гады. Кіраўнік музея і настаўніца гісторыі Ларыса Багдасар'ян распавяла, што трапілі выданні сюды дзякуючы настаўніцы рускай мовы і літаратуры Ліне Любкінай.

Найперш уражвае вялікая колькасць фотаілюстрацый, карыкатурных малюнкаў, а таксама вельмі сціплыя каментарыі, адсутнасць вялізных артыкулаў і нават сярэдняга памеру заметак. Тэксты сціслыя, але даволі трапныя і насычаны інфармацыяй, праўда, без усялякай лірыкі. І гэта нягледзячы на тое, што на выпусках пазначана: «Ежедневная политическая и литературная газета». Дык пра што і як паведамлялі журналісты мінулага стагоддзя?

Год 1913, яшчэ, здаецца нішто не прадказвае небяспекі. Кастрычніцкі нумар распачынаецца вялікім фотаздымкам (на ўсю паласу!) і паведамленнем пра няўдалую экспедыцыю па ваду гарадскіх грамадскіх дзеячаў. Экспедыцыю арганізавала гарадская каналізацыйна-водаправодная камісія ў межах праекта Ладажскага водаправода. Але дрэннае надвор'е і вялікія хвалі на возеры перашкодзілі ўдзельнікам вандроўкі, і «экспедыцыя ператварылася ў забаўляльны пікнік». На 2-й старонцы бачым фотасправаздачу пра майскія ўрачыстасці з нагоды святкавання 300-годдзя Дома Раманавых, у тым ліку і момант закладкі помніка ў Кастраме. Тут жа здымкі выпрабаванняў першага ў Расіі трактара, які карэспандэнт называе «плуг-аўтамабіль».

Не абмінала газета і недахопы. У рубрыцы «Злободневные штрихи» — злосная карыкатура на дрэнную праезджую частку мастоў у Піцеры. Закранаді газетчыкі і міжнародную тэматыку. Напрыклад, ёсць паведамленні пра крушэнне цягніка ў тунэлі Ліверпуля, пажары на параходзе «Валтурна», катастрафічныя падзеі ў вугальных шахтах Паўднёвага Уэльса.

Пра тое, што ў паветры ўжо адчуваецца пах пораху і ваеннай небяспекі, можна меркаваць толькі па адзінкавых паведамленнях накшталт навіны пра падарожжа французскіх берагоў рускай эскадры крэйсераў і браняносцаў. А ў той жа час расійскія пасажыры скардзяцца на холад у чыгуначных вагонах, на дрэнныя дарогі, хворыя — на праблемы са шпіталізацыяй, на некампетэнтнасць фармацэўтаў.

У ваенны час на першы план выходзяць навіны з франтоў, прычым не толькі расійскіх. Так, у № 64 за 1916 г. распавядаецца пра высадку французскіх войск на Галіпольскі паўвостраў у Эгейскім моры, бітву ў Пакардзіі, дзе прайшлі выпрабаванні новых узораў цяжкай артылерыі французаў. Матэрыялы суправаджаюцца вельмі дакладнымі ілюстрацыямі — фотаздымкамі ды малюнкамі.

А вось № 20 прысвечаны геройскай абароне Вердэна і адкрываецца партрэтам славутага генерала Жозэфа Жак-Цэзара Жофра. З гэтага выпуску даведваемся, што рускія ваявалі і ў Турцыі. Да «казачнага Багдада» мікалаеўская армія рухалася з боку Персіі, з поўдня наступалі англічане. Асобныя фотапарткі ілюструюць падзеі ў Альпах і на моры. Збітыя і абгарэлыя нямецкія дырыжаблі, варонкі ад выбухаў, палаючыя крэйсеры… Такі вось газетны партрэт вайны.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара**

*Год гасціннасці*

# Да князя Разявакі

Прэзентацыя новага культурна-адукацыйнага праекта для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту «Вялікі музей для дапытлівых сяброў» адбылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

Распрацоўшчыкі праекта адмовіліся ад звычайных экскурсій і лекцый, а прапануюць юным наведвальнікам дзесяць тэматычных сустрэч з супрацоўнікамі музея — з сакавіка па снежань. Хлопчыкі і дзяўчынкі будуць не гледачамі, а паўнавартаснымі ўдзельнікамі прадстаўлення. Пры гэтым яны даведаюцца, адкуль у музей «прыходзяць» экспанаты і як яны там «жывуць». Пабываюць у гасцях у князя Разявакі і дапамогуць яму знайсці страчаны ліст ад Мікалая І. Здзейсняць на машыне часу вандроўку ў эпоху рыцараў і прыгожых дам, дазнаюцца, чаму і як вучылі ў школе 200 гадоў таму, уявяць сябе ў ролях алімпійскіх багоў і герояў міфаў.

Прэзентацыя праекта, безумоўна, не змагла змясціць усе дзесяць заняткаў, але дазволіла ўбачыць, зразумець і ацаніць імкненне супрацоўнікаў установы зрабіць наведванне «храма муз» незабыўным. Дарэчы, гэта толькі адзін з падарункаў, які падрыхтаваў Гомельскі палацава-паркавы ансамбль сваім наведвальнікам у межах святкавання 95-годдзя з дня адкрыцця музея.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Традыцыі*

# «Ой, гусі мае, гусі»



*Галоўны герой свята.*

Незвычайны народны кірмаш «Гусінае свята», які можна наведаць толькі ў Касцюковіцкім раёне, адбыўся ў аграгарадку Белая Дуброва.

Гульні і конкурсы, абрадавыя дзеянні і тэатралізаваныя прадстаўленні самадзейных артыстаў... Працавала выстаўка-продаж вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Свежазваранай юшкай частавалі ўсіх гасцей працаўнікі СПК «Белая Дуброва». Тут жа пяклі бліны, гасцінныя гаспадыні «Сялянскай хаты» накрылі багаты стол, дзе былі прадстаўлены традыцыйныя стравы беларускай кухні.

Але галоўнымі персанажамі «Гусінага свята» былі гусі. Укормленыя крыклівыя гусакі і сціплыя гусыні сталі аб'ектамі ўсеагульнай увагі. Беладуброўскія артысты разыгралі сцэнку-конкурс пад назвай «Чыя гусь лепшая?», на якой прадставілі птушак ва ўсёй красе. Шмат гледачоў сабрала спаборніцтва «Гусіныя забегі». Тут галоўныя героі свята паказалі сябе сапраўднымі марафонцамі і зарабілі для сваіх гаспадынь прызы і сувеніры. Вялікую цікавасць у прысутных выклікаў галоўны рытуал свята — абрад дзялення гусі.

**Наталля ДРОБЫШАВА,**
**фота аўтара**

# «Шчыра так “калі ласка” гучыць»

ФОНД АЛЕСЯ БАЧЫЛЫ Ў ПУХАВІЦКІМ РАЁННЫМ КРАЯЗНАЎЧЫМ МУЗЕІ

Алесь Бачыла (1918 — 1983) — яркае імя ў беларускай паэзіі. Многія яго вершы — адлюстраванне і нашых патаемных перажыванняў. Гэта якраз ён напісаў праніклівыя радкі: «Дзе ж яшчэ ёсць такая на свеце, як ты? / Над якою зямлёй ідучы, / Так праменіцца сонца святлом дабраты, / Шчыра так «калі ласка» гучыць?» Так, радкі пра Радзіму, пра Беларусь нашу…

Нарадзіўся Алесь Бачыла на Пухавіччыне, у маляўнічай вёсачцы Лешніца. «Я ж цябе, быццам матчынай ласкі, трымаюся. / І ў якіх ні блукаў бы далёкіх краях, / Дзе б ні быў, а заўсёды ў пачуццях вяртаюся / да цябе, мая Лешніца, вёска мая». І далей: «Да сваіх землякоў, з кім быў лёсам заручаны, / Дарагіх успамінаў дзіцячай пары... / Мне і сёння паводкай шуміць Закаблучанка, / Шэпчуць гонкія сосны з высокай гары».

Першая кніга паэта — «Шляхі» — пабачыла свет у 1946 годзе. Паэт друкаваўся не так ужо і шмат. Але ва ўсе гады імкнуўся працаваць роўна. Мо ў некаторай ступені выключэннем з’яўляюцца 1955, 1958, 1964, 1965 гады. У 1955-м — верш у калектыўным зборніку ўспамінаў пра Янку Купалу і адзін верш у «Чырвонай змене». У 1964-м была публікацыя ў газеце «Літаратура і мастацтва» — «Юнацкі свет Валодзі Ульянава». Праўда, крыху друкаваўся ў тым годзе і з перакладамі. Нават з кітайскай паэзіі.

І ўсё ж паэт працаваў даволі інтэнсіўна. Сведчаннем таму — архіў Алеся Мікалаевіча, значная частка якога захоўваецца ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі. Цэнтр гэтай асветніцкай установы знаходзіцца ў вёсцы Блонь, непадалёку ад Мар’інай Горкі. У самой жа Мар’інай Горцы — карцінная галерэя музея. Тут размяшчаюцца яго фонды. Тут і літаратурны пакой Алеся Бачылы. Усе матэрыялы, якія старанна захоўвала жонка Алеся Мікалаевіча — Яўгенія Яфрэмаўна, перададзены ў музей сынам паэта Барысам Аляксандравічам.

Адбылося гэта на пачатку 2000-х гадоў. Перадача матэрыялаў і бібліятэкі адбывалася ў некалькі этапаў. Варта заўважыць, што гэты працэс суправаджаўся шэрагам мерапрыемстваў, якія ў памяць пра Алеся Бачылу арганізавалі музей і Пухавіцкая раённая бібліятэка пры падтрымцы Пухавіцкага райвыканкама. Старшыня райвыканкама Фёдар Караленя, намеснік старшыні Таццяна Ішуцінава — надзейныя сябры музея, якія падтрымліваюць многія ініцыятывы па ўшанаванні памяці пра земляка.

Якія ж каштоўнасці захоўваюцца ў фондах? Многія матэрыялы прадстаўлены ў ксеракопіях. Гэта сведчыць пра тое, што зборы Алеся Бачылы перадаваліся і ў іншыя ўстановы. І ўсё ж «пухавіцкі збор Алеся Бачылы» не можа не ўражваць. Багатая калекцыя фотаздымкаў. Некаторыя з іх вядомыя па публікацыях у кнігах паэта, у пасмяротным 3-томным Зборы твораў. Але большасць — арыгіналы. Гэта датычыць і здымкаў 1940 — 1950-х гг. Вельмі цікавая частка фотаграфічнага збору часоў Вялікай Айчыннай вайны.

У біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменнікі» пра ваенны лёс паэта пазначана наступнае: «...Завочна закончыў Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Восенню гэтага года быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў старшым пісарам Прыволжскай ваеннай акругі, намеснікам палітрука роты, батарэі Закаўказскай ваеннай акругі (1939 — 1941). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1942-м уступіў у КПСС. Сакратар ваенкама штаба арміі ў Іране, на Крымскім фронце (1941 — 1943), літсупрацоўнік дывізійнай газеты «В бой за Родину!» (Варонежскі, 2-і Беларускі, 1-ы Прыбалтыйскі франты). Пасля дэмабілізацыі з 1946-га працаваў адказным сакратаром «Настаўніцкай газеты»…»



Алесь Бачыла, сын Барыс і жонка.

На фронце Алесь Бачыла пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Акрамя ваенных фотаздымкаў Яўгеніі Яфрэмаўны пра той час сведчыць рукапіс яе ўспамінаў — у агульным сшытку і ў блакноце. З франтавой біяграфіяй пісьменніка звязаны і некаторыя фотаздымкі, дзе Алесь Бачыла сярод сяброў па рэдакцыі «дывізіёнкі», са сваімі франтавымі таварышамі.

Асобнае месца займаюць творы А. Бачылы. Гэта падборка вершаў, рукапіс зборніка «Белы бярэзнік» (з праўкамі аўтара), які з’яўляецца адной з найболей яркіх кніг аўтара «Радзімы маёй дарагой». Захоўваюцца тут і лібрэта да оперы А. Бачылы «Калючая ружа», праграма да яе і рукапіс «Калючай ружы», афіша рэпертуару тэатра оперы і балета на сезон 1961 — 1962 гг., а таксама іншыя матэрыялы, якія сведчаць пра зацікаўленне паэта тэатрам.

Значную частку архіва складаюць эпісталярныя дакументы. Ёсць лісты рускага паэта Канстанціна Ваншэнкіна, Яўгеніі Яфрэмаўны і самога А. Бачылы да жонкі, тэлеграма ад Я. Судрабкална (1969 год), ліставанне з дачкой беларускага «нашаніўскага» пісьменніка Альберта Паўловіча, славутай дзеячкай беларускага асветніцтва Зоськай Верас (як ксеракопіі лістоў, так і арыгіналы), з якою А. Бачыла актыўна ліставаўся ў звязку з работай над кнігай «Дарогамі Максіма». Вось што ўспамінала З. Верас у адказ на мае даўнішнія роспыты: «Збіраючы матэрыялы да сваёй кніжкі «Дарогамі Максіма», Алесь Мікалаевіч не мог не пацікавіцца маімі ўспамінамі з 1916 года, калі мы з Максімам Багдановічам на працягу 5 месяцаў спатыкаліся кожны дзень. І то не на якіх-небудзь пасяджэннях, а зусім прыватна. Ліставаньне ў такім выпадку рэч маланадзейная. Найлепшае — асабістая сустрэча.

І вось Алесь Мікалаевіч летам 1970 года прыехаў у Вільню.

Нямала меў клопату, пакуль адшукаў наш лясны дамок, але неяк знайшоў.

Я спаткала яго каля брамкі на панадворку. Знаёмства завязалася хутка, і аднесліся мы адно да другога з поўным даверам. Я з прыемнасцю падзялілася з Алесем Мікалаевічам сваімі ўспамінамі аб М. Багдановічу.

Часу да цягніка, якім Алесь Мікалаевіч ад’язджаў у Менск, заставалася шмат, і А. М. захацеў паглядзець горад і могілкі «Росса», дзе пахавана нямала беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і дзеячаў… Сын мой ахвотна згадзіўся зрабіць экскурсію па горадзе…

Яны — мой сын і Алесь Мікалаевіч — былі амаль аднагодкі і хутка пасябравалі… Пасьля гэтай першай сустрэчы мы з А. М. пачалі рэгулярна карэспандаваць.

Цікавыя лісты пісаў мне А. М. Бачыла, дзяліўся плянамі на будучыню, прысылаў ўсе свае новыя кніжкі — зборнікі вершаў…

Усё гэта перахоўваю як дарагую памятку. Пару гадзін першай — і, на вялікі жаль, апошняй — сутрэчы, шчырай гутаркі назаўсёды засталіся ў памяці.

Л. Войцік». *(Захаваны правапіс З. Верас.)*

Сярод іншых эпісталярый — лісты Пімена Панчанкі, Рыгора Няхая, паштоўка ад Максіма Танка.

Повязь у Алеся Бачылы з Пухавіччынай трывалая. Землякі адзначаюць кожны юбілей паэта. Адна з вуліц Мар’інай Горкі носіць яго імя. Дзякуючы менавіта замове землякоў выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» выпусціла некалькі гадоў назад зборнік А. Бачылы «Радзіма мая дарагая». Несумненна, развіццю літаратурна-краязнаўчай работы ў асэнсаванні спадчыны Алеся Бачылы і яго месца ў гісторыі і Пухавіччыны, і беларускай літаратуры будзе спрыяць наяўнасць архіва паэта ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі, магчымасць карыстацца ўнікальнымі цікавымі дакументамі. У многім заслуга ў фарміраванні калекцыі дакументаў і кніг Алеся Бачылы належыць дырэктару музея Аляксандру Прановічу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, фота з фондаў Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея**

# Даль вечнасці

Жыццё і творчасць Аляксея Пысіна (1920 — 1981) былі звязаны з Беласточчынай, хаця сам паэт нарадзіўся і жыў на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі яго, 19-гадовага юнака, накіравалі ў Бельск пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР.

Аляксей быў студэнтам другога курса Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі, калі яго датэрмінова накіравалі на працу ў бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Калі б не вайна, мог застацца на Беласточчыне назаўсёды. Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне ажно да Гомеля, а потым эвакуацыя на Урал у запасны полк. Далей шляхі зноў прывялі на фронт.

Вайну прайшоў сувязістам, быў двойчы паранены. Дамоў дэмабілізаваўся ў 1946 г. Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Але Аляксей адсочваў падзеі, якія там адбываліся. У 1965 г., калі ў Гарадку пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у Беласток, у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва»: «Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня (1965)». Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны».

Супрацоўнікі тыднёвіка, вядома ж, перадалі кнігу ў Гарадок. А яго рэдактар Георгій Валкавыцкі даслаў Пысіну ў Магілёў «Ніву», «Беларускі каляндар» і літаратурны альманах «Белавежа». Аляксей узрадаваўся і расхваляваўся. Напісаў пісьмо рэдактару «Нівы»: «Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за «Ніву», «Беларускі каляндар», «Белавежу» і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з’ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А. Пысін. Магілёў, 13. 02. 1966 г.»

Калі рэдактар атрымаў ліст з Магілёва ад А. Пысіна і яго вершы, адразу аддаў іх у друк. А 20 сакавіка 1966 г. «Ніва» на першай старонцы друкуе сем новых вершаў паэта. Пазней гэтыя творы А. Пысіна ўвойдуць у яго кнігу паэзіі «Твае далоні» (1967), за якую ён у 1968 г. атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

А. Пысін вельмі любіў «Ніву». Калі атрымліваў нумар, то чытаў усё да драбніц. 16 лістапада 1966 г. ён піша Георгію Валкавыцкаму ліст, у якім просіць аформіць падпіску «Нівы» на 1967 год для сябе і свайго сябра — магілёўскага пісьменніка-сатырыка Івана Аношкіна. А 23 кастрычніка 1966 г. «Ніва» на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы А. Пысіна: «Агонь ці кроў сцякае на дубровах…», «Рэдка бачым мы птушак сваіх…», «Не ўсе лясы мае згарэлі…», якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта «Твае далоні».

Вершы паэта друкаваліся ў «Ніве» і пазней. Але самым шчаслівым для яго быў 1980-ы. У студзені ў гэтым выданні змясцілі тры вершы, а 19 і 20 чэрвеня паэт разам з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім прыехаў на Беласточчыну і быццам вярнуўся ў маладосць. Госці з Беларусі цікавіліся жыццём тамтэйшых беларусаў, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю, пабывалі ў рэдакцыі «Нівы».

Візіт беларускіх літаратараў асвятлялі ў «Ніве» гісторык і журналіст Мікола Гайдук, паэт і журналіст Міхась Шаховіч. «Аляксей Пысін зачараваў дэкламацыяй сваіх вершаў з розных гадоў — і тых, што паўсталі яшчэ ў школьныя гады, і тых, якія нарадзіліся ў апошнія дні, — паведамляў Мікола Гайдук. — Уражвала глыбіня думак і пачуццяў гэтай самабытнай лірыкі. Яна перапляталася ў нейкае лагічнае цэлае з успамінамі паэта пра яго змаганне на розных франтах вайны, працу ў мірны час, бо з гэтага і бярэцца яе радавод».

Калі А. Пысін наведаў рэдакцыю «Нівы», ён абяцаў рэдактару Г. Валкавыцкаму, што напіша ўспаміны з бельскай маладосці. Але так і не напісаў. А ў «Ніву» даслаў толькі тры свае вершы: «Балада сагнутых бабуль», «Даль вечнасці без берагоў…» і «Заспявай, мой дружа, заспявай…». Яны былі надрукаваны на першай старонцы газеты 18 студзеня 1981 г. У адным ёсць такія радкі:

*Даль вечнасці без берагоў,*
*Ды час мы адлічваць павінны…*

У «даль вечнасці» Аляксей Пысін адышоў 27 жніўня 1981 года. Ён памёр у Магілёве і пахаваны там на Польскіх (іронія лёсу!) могілках на вуліцы Лазарэнкі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# «Шуры-муры», або «заечыя радасці»

**Ганна Сілівончык — таленавітая мінская мастачка. І да таго ж, вельмі незвычайная. Яе карціны надоўга застаюцца ў памяці, а выразныя вобразы ўздымаюць настрой і прымушаюць задумацца над простымі і важнымі рэчамі. На пачатку першага месяца вясны мастачка адкрыла адразу дзве персанальныя выстаўкі.**

Экспазіцыя пад вясёлай назвай «Шуры-муры» размясцілася ў галерэі «Newday». У легкадумнай, на першы погляд, назве — любімая тэма творчасці Ганны і вечная тэма мастацтва — каханне. Вобразы ў работах алегарычныя, зразумелыя і не без гумару.

Падчас выстаўкі творца сустракала гасцей у яркім адзенні і добрым настроі. Усіх запрашала частавацца цукеркамі і размаўляла з кожным жадаючым, ахвотна пазіравала для фотаздымкаў. Карэспандэнту «ЛіМа» Ганна паведаміла: «На работы мяне натхняе жыццё. Гэта ўсё выключна жывапіс з натуры: што бачу, тое і пішу,— ніякіх домыслаў. Але з агаворкай — увасабляю ўсё не літаральна, а ў выглядзе розных сімвалаў. З аднаго боку, я пішу карціны пра сябе і пра тое, што бачу навокал, з іншага — не называючы імёнаў і не канкрэтызуючы, прамаўляю агульна і зразумела кожнаму».

Мастачка таксама прызналася, што ў яе ніколі не было куміраў ні ў жывапісе, ні ў музыцы, ні ў літаратуры. «Я не магу вылучыць аднаго чалавека, у якога ўся творчасць на найвышэйшым узроўні. Выдатнага існуе шмат, у кожнага мастака можна знайсці нешта любімае для сябе», — адзначыла Ганна.



*Ганна Сілівончык «Давай ажэнімся!», 2012 г.*

Часцей за ўсё творца працуе ў традыцыйнай тэхніцы алейнага жывапісу, але не цураецца і эксперыментаў. Часам выкарыстоўвае тэкстурныя пасты, робіць калажы з фактурных шпалер, малюе акрылавымі фарбамі, каляровымі алоўкамі, фламастарамі. Г. Сілівончык неаднаразова брала ўдзел у розных выстаўках, у тым ліку і за межамі Беларусі. Яна з'яўляецца членам Беларускага саюза мастакоў і мае медаль «Талент і прызванне» міжнароднага альянса «Міратворца». Яе работы можна ўбачыць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Музеі сучаснага рускага мастацтва ў ЗША ды іншых. Карціны мастачкі знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Францыі, ЗША, Японіі, Ізраіля, Італіі, Германіі і Польшчы.

А ў Італьянска-беларускім цэнтры культурных абменаў «Італьянскі свет» адкрылася яскравая і вясёлая выстаўка «Сакавіцкія зайцы» Ганны Сілівончык. Адкрыццё было такім жа яркім і запамінальным, як і самі карціны. Прыемным сюрпрызам стала выступленне спявачкі Жанет. Ганна Сілівончык таксама забаўляла гасцей: чытала вершы пра зайцоў, праводзіла конкурсы, раздавала падарункі-паштоўкі з выявамі ўласных карцін. Для маленькіх наведвальнікаў праводзіўся майстар-клас па вырабе арыгінальных масак зайцоў. Да таго ж, усіх прысутных частавалі маркоўным сокам, пірагом з капустай ды іншымі «заечымі радасцямі».

Кожнаму, хто яшчэ не паспеў адчуць надыход вясны, будзе карысна наведаць выстаўкі Ганны Сілівончык. Яркія карціны з вясёлымі сюжэтамі падымуць настрой нават самаму засмучанаму чалавеку.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**



*Ганна Сілівончык «Мацыён», 2013 г.*



*Ганна Сілівончык «Нам не страшны шэры воўк», 2013 г.*

# У трэндзе — шматграннасць

**Па-сапраўднаму таленавіты чалавек мае не адзін талент. Гэту ісціну пацвярджае лаўрэат міжнародных тэатральных фестываляў, рэжысёр, мастак тэатра і кіно Уладзімір Матросаў. Выстаўка «Этап», што адкрылася ў Музеі гісторыі беларускага кіно, дэманструе шматграннасць творцы.**

*Фота Вольгі Зубенка*



*Партрэт і скульптура Івана Чыгрынава.*

Эскізы да спектакляў, партрэты рэжысёраў, акцёраў і пісьменнікаў, нацюрморты, пейзажы, графіка, скульптуры і карціны розных гадоў — усё гэта прадстаўлена ў экспазіцыі. Так, ёсць эскіз, які быў намаляваны яшчэ ў 1968 годзе, калі Уладзімір Матросаў упершыню ў Савецкім Саюзе звярнуўся да тэатра абсурду С. Бэкета (п'еса «У чаканні Гадо»). Такія работы правераны часам і, як добра вытрымане віно, маюць тонкі смак, вабяць сапраўдных знаўцаў. Сустракаюцца і карціны апошніх гадоў. Напрыклад, «Купальская ноч» была намалявана ўсяго два месяцы таму. Народнае свята мастак адлюстраваў незвычайна: да звыклых скокаў каля вогнішча дадаў элементы стылю «ню» і бандытызму.

Работы Уладзіміра Матросава адрозніваюцца не толькі часам напісання, але і стылем. Мастак звяртаецца то да скульптурнага, то да эскізнага малюнка... Мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн адзначыла: «У станковых працах У. Матросава ёсць камернасць і манументальнасць, фрагментарнасць кадра, а ў некаторых пейзажах — эпічнасць. Напэўна, самы моцны яго бок — партрэты, у якіх бачны непасрэдныя чалавечыя характары. Фатаграфічнага падабенства можа і не быць, галоўнае — незвычайная дакладнасць характараў. Ёсць і выдатныя аўтапартрэты, вельмі праўдзівыя. А вось пейзажныя ды жанравыя кампазіцыі зроблены, здаецца, адной правай, вельмі хутка, у іх менш выразнасці».

Што дае такая стылістычная двайстасць? Магчымасць адлюстраваць усе праявы рэчаіснасці. Да прыкладу, каб распавесці гісторыю чалавека, мастак выкарыстоўвае дакладныя мазкі, правільныя формы, натуральныя нікідкія колеры. Сам Уладзімір Матросаў кажа: «Заўсёды важна злавіць сутнасць чалавека. Але ў мяне ёсць яшчэ маленькі «бзік» — я спрабую па-філасофску ўзняць значнасць героя». Перад намі максімальны псіхалагічны рэалізм з лёгкім філасофскім адценнем. А вось аповед пра прыроду ці пра жыццё мастак вядзе ўжо іначай: шырокімі мазкамі, што дзе-нідзе злучаюцца ў цэльныя плямы. Колеры насычаныя і могуць перадаць усе адценні эмоцый. Да прыкладу, работа «Чарнобыльскі дождж» — рэфлексія мастака з нагоды трагедыі. Чорны боль, смяротная пакута, няўпэўненасць у будучыні — эмоцыі малюнка.

У работах У. Матросава чуецца паветраная хада імпрэсіянізму, якая часам плаўна пераходзіць у экспрэсіянізм. Таму і прыхільнікам рэалістычнага жывапісу, і аматарам мадэрнісцкіх плыняў — на гэту выстаўку!

**Паліна ПЛАТАВА**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**

Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71

бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2547.
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк
13.03.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 1029.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686